© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№500 Верасень 2004 г.
Год выданьня 55

# 500 нумароў БЕЛАРУСА

Юбілеі друкаванага органу маюць сваё прызначэньне: час ад часу трэба асэнсаваць зробленае, прыгадаць добрым словам тых, хто бескарысьліва працаваў над выданьнем, замацаваць пэрспэктыву на далейшы выхад яго. Зрабіць усё гэта трэба пагатоў, калі за сьпіною паўтысячы нумароў газэты, якая выходзіць коштам дабраахвотных ахвяраваньняў ды рэдагуецца й адмініструецца выключна на грамадзкай аснове.

Грамада без свайго друкаванага органу — што чалавек бяз голасу і бяз памяці. Газэта "Беларус" перш-наперш — гэта голас раскіданых па сьвеце беларусаў: голас жывога грамадзкага арганізму, голас людзей, што самасьцьвярджаюць сябе, голас іхнай любасьці да свайго, голас пратэсту і абароны; гэта сыгнал у геаграфічнай і часавай прасторы, што Беларусь жыве, што беларускі народ мае свае агульначалавечыя і нацыянальныя ідэалы. Газэта "Беларус" — гэта наша калектыўная памяць, хроніка нашага жыцьця, наша гісторыя. Хопіць перагледзець падшыўкі газэты, каб пабачыць, якое багацьце інфармацыі й дакумэнтацыі зафіксаванае ў іх на працягу прамінулых гадоў. Гісторыкі, якія пішуць або будуць пісаць пра жыцьцё беларусаў замежжа пэрыяду па Другой сусьветнай вайне, ня здолеюць абыйсьціся без спасылак на "Беларуса", бо ў ім — і пра палітыку, і пра культуру, пра вясельлі й пра паховіны, пра сьвяточнае і пра будніча, пра Бацькаўшчыну і пра Чужыну. "Беларус" — гэта вялізарнейшы архіў фактаў, дакумэнтаў, прозьвішчаў і фатаграфіяў; гэта багаты й каляровы аповед аб тым, як людзі, што воляй лёсу былі закінутыя ў чужыя краі, далі рады выжыць, здолелі замацавацца на новым месцы ды засталіся вернымі краіне свайго паходжаньня, жылі цэлымі пакаленьнямі думкай і клопатамі пра ейны дабрабыт, змагаліся за ейную свабоду.

Хоць "Беларус" выходзіць пад грыфам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, гэта выданьне агульнабеларускае. У ім адлюстроўваецца жыцьцё беларускай дыяспары, а таксама дзяржаўна-незалежніцкая ідэалёгія, прынцыпы пабудовы дэмакратычнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Гісторыя газэты "Беларус", выхад якой фінансуецца выключна беларускім грамадзтвам, красамоўна сьведчыць пра шырокую і стабільную падтрымку нацыянальных ідэалаў і палітычных імкненьняў, якія адлюстроўвае газэта. З нагоды выхаду 500-га нумару газэты рэдакцыя "Беларуса" выказвае шчырую падзяку ўсім супрацоўнікам, падпісчыкам і ахвярадаўцам, якія забясьпечваюць выхад у сьвет гэтай унікальнай Кнігі Быцьця нашага.

Калі Вы, Паважаны Суродзічу, будзеце ў далейшым часе браць у рукі новы нумар газэты "Беларус", які налічвае нармальна восем ці колькі там старонак, дык не забывайце, што гэта — толькі чарговы дадатак да тысячаў папярэдніх старонак вялікага Беларускага Летапісу. У пісаньні ды выхадзе ў сьвет яго Вы бераце беспасрэдны ўдзел праз тое, што зьяўляецеся ягоным чытачом, а заадно і сувыдаўцом.

*Рэдакцыя "БЕЛАРУСА"*

# ЗАЯВА

## з прычыны закрыцьця Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту ў Менску

***Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (на Чужыне)***
***Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк)***
***Кааліцыя ў Абарону Дэмакратыі й Правоў Чалавека ў Беларусі (ЗША, Канада)***
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***
***Згуртаваньне Беларусаў Канады***

заяўляюць:

Ліквідацыя Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту ўрадам прэзыдэнта Лукашэнкі праз пазбаўленьне памешканьня для выкладаў і адмову ў ліцэнзіі на працяг навучаньня — гэта яшчэ адно сьведчаньне рэакцыйнасьці сучаснага рэжыму ў Беларусі. Гэта чарговае намаганьне спыніць разьвіцьцё свабоднага грамадзтва, запавольніць рост грамадзянскай супольнасьці (civil society). Закрыцьцё Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту зроблена наўсуперак відавочнаму пастуляту, што толькі глыбока ўкаранёная грамадзянская супольнасьць можа гарантаваць дэмакратыю і агульны дабрабыт у краіне. А такое можа стацца ў вялікай меры праз азнаямленьне з новымі ідэямі ў гуманітарных навуках. Гэткаму азнаямленьню й спрыяла дзейнасьць недзяржаўнага ЭГУ. Але ўлада РБ спахапілася, што азнаёмленасьць маладых людзей з сучаснымі навуковымі тэорыямі на Захадзе, лекцыі заходніх выкладчыкаў, эксрэрымэнтальныя мэтады навучаньня, новыя ідэі ў пазнаваньні рэчаіснасьці разьнявольваюць розум моладзі, даюць імпульс глядзець на рэчы й зьявы іншымі вачыма. Вызвалены розум не прызнае прымусу над сабой, ён супрацівіцца ўсякаму гвалту над ім. І ў гэтай свабодзе інтэлекту ўладныя структуры ўгледзелі пагрозу сабе.

Кіраўніцтва ўнівэрсытэту, выкладчыцкі пэрсанал, студэнты й замежныя спонсары змагаюцца за выжываньне ЭГУ. Мы жадаем ім перамогі ў іхных намаганьнях і будзем бараніць права на далейшае існаваньне гэтай установы. Жадаем заадно, каб у будучай сваёй дзейнасьці кіраўніцтва ўнівэрсытэту зьвярнула больш увагі на вывучэньне беларускай нацыянальнай культуры, якую неміласэрна вынішчае ўрад Лукашэнкі. Бо ж беларушчына становіць неад'емную частку агульнай чалавечай культуры, азнаямленьню зь якой спрые ўнівэрсытэт.

Калі-ж выжыць ЭГУ ў гэтым змаганьні ня ўдасца і гэтая вышэйшая навучальная ўстанова спыніць сваё існаваньне, гэта будзе вялікаю стратаю, будзе далейшым абмежаваньнем шанцаў Беларусі інтэгравацца ў Эўропу, у заходні дэмакратычны сьвет.

# Сустрэча ў Рызе



Злучаныя Штаты й суседняя Латвія пацьвердзілі, што гатовыя падтрымаць барацьбу за дэмакратыю ў Беларусі. Амэрыканскі сэнатар Джон Маккэйн, якому афіцыйны Менск адмовіўся выдаць візу для паездкі ў Беларусь у жніўні, 21 жніўня сустрэўся ў Рызе з кіраўніцтвам Латвіі ды абмеркаваў зь імі сытуацыю ў суседняй Беларусі.

Мэта візыту – абмеркаваць умацаваньне дэмакратыі ў рэгіёне. Гэта тая самая дэлегацыя 4 сэнатараў, якую ў гэтым месяцы не пусьцілі ў Беларусь. Апрача спадара Маккэйна, у яе склад уваходзяць сэнатары Сьюзэн Колінз, Ліндсэй Грэм і Джон Сунуну.

Новы міністар замежных справаў Латвіі Артыс Пабрыкс, які ўжо раней заяўляў пра намер латыскага ўраду дапамагаць справе дэмакратызацыі Беларусі, зноў пацьвердзіў гэтую пазыцыю падчас перамоваў з сэнатарам Маккэйнам – адным з аўтараў праекту "Акту аб дэмакратыі ў Беларусі".

На прэсавай канфэрэнцыі, якая адбылася пасьля гэтай сустрэчы, сэнатар Маккэйн сказаў, што ЗША падтрымліваюць намаганьні Беларусі хучэй стаць свабоднаю і дэмакратычнаю дзяржаваю. А кіраўнік МЗС Латвіі Артыс Пабрыкс дадаў: "Мы гатовыя разам змагацца за дэмакратыю. Латвія зычыць Беларусі ўсяго найлепшага, і мы спадзяемся, што істотныя зьмены там адбудуцца ўжо вельмі хутка".

Джон Маккэйн выказаў спадзяваньне, што зьмены, якія хутка адбыліся ў Балтыі, маглі-б натхніць таксама жыхароў Беларусі змагацца за дэмакратыю. Спадар Маккэйн назваў Латвію адным з найлепшых сяброў ЗША ў сьвеце й дадаў, што ў Латвіі адбываецца адна з найвялікшых у сьвеце гісторыяў посьпеху. Што да Беларусі, дык сэнатар выказаў сваю заклапочанасьць тамтэйшымі падзеямі й заявіў: "Лукашэнка маніпулюе канстытуцыяй дзяржавы, каб кантраляваць тое, што адбываецца ў краіне. Ён кіруе Беларусьсю як Савецкім Саюзам, выклікаючы ў людзей боязь і адчуваньне прыгнечанасьці. Там зьнікаюць журналісты ды актыўныя барацьбіты за дэмакратыю, арыштоўваюць тых, хто выступае супраць дыктатуры".

Джон Маккэйн нагадаў, што былы амбасадар Беларусі ў Латвіі Міхаіл Марыніч з 26 красавіка знаходзіцца за кратамі беларускай турмы, бо ён хацеў быць у апазыцыі. "Але", сказаў спадар Маккэйн, "ёсьць падставы для надзеі, бо ў Беларусі шмат людзей, якія змагаюцца за яе свабоду й дэмакратыю – напрыклад, дэпутат парлямэнту Валеры Фралоў, лідэр беларускай Партыі працы Аляксандар Бухвостаў і кіраўнік Беларускага Народнага фронту Вінцук Вячорка". Сэнатар падкрэсьліў: "Беларусі трэба ведаць, што дэмакратычныя сілы падтрымліваюць яе намаганьні здабыць свабоду. Мы захапляемся вашай мужнасьцю ды ўнутранай сілай".

***Радыё Свабода***

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Змагацца трэба не ілбом, а тым, што ў ілбе

Папярэдні раз я пісаў пра "дзіўную галадоўку" трох палатных дэпутатаў (у чэрвені гэтага году) і пра канкрэтную задачу гэтай маніпуляцыі: зглуміць ідэю байкоту і настроіць грамадзтва ісьці на восеньскія выбары ў палату, да якіх рэжым плянуе далучыць рэфэрэндум пра так званы "канстытуцыйны акт" і трэці тэрмін Лукашэнкі.

Я зьвярнуў увагу на заяву ініцыятараў "галоднай акцыі" пра стварэньне чарговага "народнага руху" "За справядлівыя выбары" й зазначыў, што гэта не апошні правакацыйны выверт, разыграны генэраламі й прамаскоўскай "дэмакратыяй".

Так яно і сталася. 21 ліпеня гэтыя асобы арганізавалі ў Менску так званую "акцыю пратэсту" пад назовам "Твой адказ сыстэме". Ужо сам назоў (інфантыльна-ніякі) гаварыў пра ўзровень думаньня арганізатараў. Як паведамілі "дэмакратычныя" сродкі масавай інфармацыі, асноўныя лёзунгі апэрацыі былі тыя-ж, што і пры акцыі "галадоўка", менавіта: "Нет – третьему сроку", "За справедливые выборы", "Свободу Мариничу".

А тым часам напярэдадні, на прэсавай канфэрэнцыі 20-га ліпеня, Лукашэнка адкрыта аб'явіў пра магчымасьць правядзеньня рэфэрэндуму, які-б скасаваў канстытуцыйнае абмежаваньне для адной асобы абірацца на трэці прэзыдэнцкі тэрмін. Прычым ён зазначыў, што правесьці рэфэрэндум цяпер можна вельмі хутка.

У гэты-ж час Лушэнка зьбірае ў Менску ўсіх беларускіх амбасадараў (40 асобаў) і выступае перад імі па пытаньнях дачыненьняў зь Эўразьвязам, ЗША і Расеяй. Людзям, якія хоць трохі знаёмыя з палітыкай і дыпляматыяй, павінна быць зразумела, што за гэтай фармальнай зборкай схавана галоўная мэта Лукашэнкі – дамагчыся зьнешнепалітычнага забесьпячэньня будучага рэфэрэндуму пра зьмены ў канстытуцыі, пра магчымае прыняцьце так званага "канстытуцыйнага акту" і пра трэці тэрмін прэзыдэнта.

У гэты-ж час таксама сакратар Цэнтрвыбаркаму Мікалай Лазавік засьведчыў, што тэрміны дазваляюць правесьці рэфэрэндум адначасна з парляманцкімі выбарамі, і што ўсё будзе залежаць ад Лукашэнкі. М. Лазавік тут-жа пацьвердзіў, што правілы вылучэньня назіральнікаў на выбары застаюцца няпэўнымі. Ён абвінаваціў у гэтай няпэўнасьці партыйныя і грамадзкія арганізацыі й параіў ім удасканаліць свае структуры, згодна закону пра выбары (быццам ня ведама, што якраз гэтаму супраціўляецца "вертыкаль" Лукашэнкі), інакш "у кожным канкрэтным выпадку выбарчыя камісіі будуць на месцы прымаць рашэньні", — сказаў М. Лазавік. (Што робіць "на месцы" – ведама.) "Фактычнага назіраньня, — сказаў на гэта Выканаўчы дырэктар Беларускага Гэльсінскага камітэту А. Гулак, — ня будзе."

Такім чынам, сталі відавочнымі бясспрэчныя факты, пра якія я казаў паўгода таму ў артыкуле (звароце) "Байкот", прапануючы перамагаць сыстэму ня ў лоб (дзе яна спрактыкаваная ў фальсыфікацыі), а ў абход – адмовіцца ад галасаваньня і тым самым падвесіць рэжым у паветры, стварыць лепшыя ўмовы для барацьбы з узурпацыяй улады перад прэзыдэнцкімі выбарамі. Аднак "агітатары" прадаўжалі сваё, клікалі людзей на выбары. І вось 20 ліпеня сам Лукашэнка засьведчыў, што зьбіраецца выкарыстаць выбары ў сваіх антыканстытуцыйных інтарэсах.

І што-ж цяпер, калі ўжо адкрыта ўсё выявілася? Што будуць казаць цяпер тыя "пяцёркі-плюс" ды іншыя зазывалы ў выбарчую пастку? (Раней спасылаліся на тое, што рэфэрэндуму, маўляў, адначасна з выбарамі ня будзе.)

Зрэшты – адказ ведомы. Нічога ня стануць казаць, будуць прадаўжаць сваё. Менавіта так паводзілі сябе "палатнікі-галадоўнікі" 21-га ліпеня. Яны ўсё ігнаравалі.

"Галоўнае для нас – колькі людзей зьбярэцца, – казаў журналістам радыё "Свабода" генэрал В. Фралоў. – Ёсьць такі палкоўнік Полудзень. Мы там зь ім зробім так, каб тыя людзі (а іх, мне здаецца, будзе вельмі шмат), з нашымі ахоўнікамі зробім так, каб былі добрыя ўмовы рухацца зь Якуба Коласа да плошчы Бангалёр..." "Мы плянуем на Бангалёры мітынг і канцэрт, — кажа іншы "палатны дэпутат" С. Скрабец, — жанчынам будуць даваць кветкі, дзецям – марозіва, балёнікі будзем надзьмуваць..." "Аляксандар Рыгоравіч казаў, — паважліва працягвае генэрал Фралоў, — што калі выйдуць 120 тысячаў, то ён сыйдзе ў адстаўку. Вось мы й паспрабуем зрабіць, каб ён сыйшоў."

Чым скончыліся гэтыя інфантыльныя разважаньні – вядома. На плошчу Якуба Коласа прыйшло каля 150 чалавек (у дадзеным выпадку вэрсія міліцыі праўдзівая). Азьвярэлы АМАП (якога было больш за дэманстрантаў) па камандзе згары накінуўся на людзей. Зьбілі й арыштавалі каля 60-ці чалавек, прытым білі й калечылі ў асноўным моладзь і падлеткаў. Аднаму 17-гадоваму падлетку паламалі рэбры. Ён шпіталізаваны з разрывам касы (гэта ад біцьця ботамі). Яго чакае апэрацыя і магчымае калецтва на ўсё жыцьцё.

Каля 500 асобаў сабралася на плошчы Бангалёр. Выступалі выключна па-расейску, лёзунгі таксама па-расейску (і нават па-ангельску). Ні слова па-беларуску. Шкодная акцыя (і ў сваёй малалікасьці, і сваім абсурдам) — правалілася.

Назаўтра, 22 ліпеня, "дэпутаты-палатнікі" правялі прэс-канфэрэнцыю, дзе падсумавалі вынікі "акцыі" і, не міргнуўшы вокам, адзначылі, што акцыя "Твой адказ сыстэме" "ўдалася", і, ня гледзячы на жорсткія дзеяньні ўлады, "прайшла пасьпяхова" і нават, што "падобныя вулічныя мерапрыемствы" яны (палатнікі) "плянуюць у будучыні". (Дарэчы, гэтакая адкрытая ілжывасьць пра відавочнае – характэрная рыса асаблівай мэнтальнасьці, добра вядомай яшчэ з практыкі СССР.)

У час вайны за ахвяраваньне салдатамі ў заведама пройгрышнай сытуацыі генэрала маглі адправіць пад трыбунал. Аднак тут – іншая справа, і ніхто пад трыбунал ня пойдзе, бо ўся акцыя з абодвух бакоў разьвівалася па тэхналёгіі стандартнай правакацыі.

Аналіз фактаў, якія я назваў у пачатку, паказвае, што ў цяперашнім становішчы рэжым не дазваліць разьвівацца ніякім пратэстным падзеям, ніякім зборкам людзей, шэсьцям, мітынгам, дэманстрацыям. Мэтад – зьбіцьцё, здушэньне, разгон, бязьлітасны судовы перасьлед з мэтаю пасеяць яшчэ большы страх у грамадзтве, каб не дапусьціць перад выбарамі й рэфэрэндумам асьмяленьня людзей, паднясьцця галавы, выхаду іх на плошчы й стварэньня сытуацыі, падобнай, як у Бялградзе і Тбілісі. Тут рэжым адступаць ня будзе і пойдзе напралом. Ня трэба асаблівых высілкаў, каб кожнаму гэта зразумець і зрабіць высновы адносна тактыкі барацьбы.

Тыповая тактыка рэжыму ў гэтакім выпадку – правакацыя (дзеля запалохваньня і апраўданьня рэпрэсіяў). Гэта значыць, каб людзі выйшлі на вуліцы, а потым іх разагнаць, зьбіць, пакалечыць, судзіць, абцяжарыць штрафамі. Вынікі — відавочныя.

Тым часам агітатараў паклікаць людзей "балёнікі надзьмуваць" таксама хапае. Пасьля-ж разгону і зьбіцьця схопленыя, седзячы ў арышце, кажуць, маўляў, нічога, "мы яшчэ скажам сваё слова на парляманцкіх выбарах".

Вось табе і "твой адказ сыстэме". Сто тысячаў разоў – на адны граблі. Ну як тут ні парадавацца Лукашэнку і нават не пакпіць з сваёй "апазыцыі", не назваць яе ласкава "отморозками". І чым больш ён будзе іх зьневажаць, тым больш ім хочацца адпомсьціць і "сказаць сваё слова на парляманцкіх выбарах", дзе іх з радасьцю чакаюць . Так куецца чарговая "элегантная перамога" рэжыму. Але калі-б толькі "недахоп галавы" быў тут прычынаю! Гэта-ж такія "прагматыкі", што пэўна ведаюць, на што пайшлі.

Зьвяртае на сябе ўвагу тое, што Лукашэнка дзейнічае цынічна, прасталінейна і ўпэўнена. Масква дала яму 175 мільёнаў даляраў на выбары й рэфэрэндум і паабяцала сваё "добро". Руская і нямецкая дыпляматыя моцна папрацавалі ў ягоную падтрымку за мяжою, у Эўропе. 8 ліпеня немцы нават адклікалі сваю крытычную рэзалюцыю па Беларусі на Парляманцкай Асамблеі АБСЭ ў Эдынбургу і ўзамен заключылі "зьдзелку" (як сказала "тытан" палітычнай думкі Ута Цапф) з адыёзнымі прадстаўнікамі палаты Лукашэнкі.

Камізм сытуацыі ў тым, што ўсе гэтыя "пяцёркі" й "плюсы", якіх за нямецкі кошт вазілі па эўрапейскіх асамблеях, так пераацанілі сябе, што сталі абурацца на Дойчлянд, усчалі лямант і гвалт. І тады энэргічная фраў Цапф (кіраўніца Рабочай групы АБСЭ па Беларусі) глыбокадумна паведаміла: "Ім варта зразумець: гэта было зроблена дзеля іхняй-жа карысьці, каб забясьпечыць ім больш свабоды ў час правядзеньня выбараў". ("Белорусская газета", — 2004, 19 ліпеня)

Вось гэта пэрла! І пасьля гэтага "агітатары", аб якіх выцерлі ногі, зноў прадаўжаюць клікаць на "справядлівыя выбары". Проста сорамна. Грошы, як кажуць, ня пахнуць, але ці-ж можна так апускацца, спадары прагматыкі (і перад кім!).

Цапфы, вікі, фрыкі й закулісная Масква дзеля сваіх інтарэсаў штурхаюць свае беларускія крэатуры ісьці на правальныя выбары й рэфэрэндум. У цэлым гэтыя інтарэсы ёсьць адлюстраваньнем падзелу пазыцыяў у Эўропе і пагляду на яе будучыню. Ці разумеюць хоць прастадушныя беларускія карыстальнікі чужых рэсурсаў і чужых ідэяў, якую (і чыю) пазыцыю яны падтрымліваюць, будучы залежнымі і ад Нямеччыны, і ад Масквы (ці дакладней, хто і дзеля чаго іх выкарыстоўвае)? Ці ім ужо ўсё роўна – "была-бы шляпа"?

Праўда такая, што ў бліжэйшы час ніякія выбары, рэфэрэндумы й ніякае галасаваньне на выбарах выйграць немагчыма. Ісьці супраць рэжыму ў лоб, на выбары – гэта значыць разьбіць сабе лоб і спрыяць рэжыму ў ягонай перамозе. Змагацца трэба не ілбом, а тым, што ў ілбе – думкамі, ідэямі й кемлівасьцю. Заклікі заходніх дарадцаў, якія не разьбіраюцца ў беларускім жыцьці, і патрабаваньне ісьці на выбары, каб "набыць палітычны вопыт" – сьмехатворныя, бо не дзеля вопыту ідуць на выбары. Тым больш, калі ўсё прадвызначана, і для перамогі рэжыму патрэбна толькі забясьпечыць прыход выбарцаў на галасаваньне. Страта ад удзелу ў такіх "выбарах" будзе велізарнаю, а набытак – нікчэмны, бо, вобразна кажучы, не існуе "вопыту сьмерці", ёсьць проста сьмерць.

Байкот – гэта ўдар збоку. У цяперашніх беларускіх умовах гэта адзіны шанц для народа перамагчы аўтарытарызм, спаралізаваць рэжым, не дапусьціць здачы Беларусі, працягу дыктатуры й вынішчэньня беларускай культуры (бо нацыянальная культура – галоўнае ў жыцьці нацыі й разьвіцьці цывілізацыі). Посьпех байкоту адчыняе верагоднасьць разьвіцьця грамадзкай ініцыятывы, магчымасьць перамогі над страхам, стварае лепшыя пэрспэктывы для выбараў прэзыдэнта.

Вынік прэзыдэнцкіх выбараў 2006 года будзе вырашаны ў гэтым годзе 17-га кастрычніка. Калі беларусы не асьцерагуцца і пойдуць усьлед за зазывалямі галасаваць на "справядлівыя выбары" й рэфэрэндум, то на прэзыдэнцкіх выбарах 2006 года і на верагоднасьці пераменаў можна будзе паставіць крыж. Грузінскага варыянту ня будзе (тым больш, югаслаўскага). Будзе – беларускі. Крывамоўнае, "касназычнае", сіплае рабства, чужацтва ва ўласнай краіне, працяг культурнай дэградацыі.

Але калі зірнуць глыбей, то адразу відаць, што пазыцыі рэжыму ў Беларуеі ня моцныя і беспэрспэктыўныя. Правал правакацыйнай апэрацыі палатнікаў 21 ліпеня таксама пра гэта сьведчыць.

Байкот магчымы, бо патрэбны! Рыхтуймася да байкоту. Працуйма на перамогу.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# Чарнобыль не забыты

Ангельская газэта "The Sunday Times" 8 жніўня апублікавала артыкул карэспандэнта Джастына Спаркса пра тое, як Расея асадзіла чарнобыльскую радыяцыю на тэрыторыі Беларусі, штучна выклікаўшы дождж. Пра гэта распавёў брытанскі навуковец. Нядаўна беларускі ўрад выслаў яго зь Беларусі за тое, што ён публічна распавёў пра вынікі сваіх дасьледаваньняў, пра тое, якія тэхналёгіі ўжыла Расея, каб асадзіць пыл ад выбуху ў Чарнобылі ў Беларусі.

Імя гэтага навукоўца Алан Флаўерс. Беларускі ўрад загадаў яму пакінуць Беларусь на працягу 48 гадзінаў. Др. Флаўерс даводзіць, што дзякуючы тэналёгіям, якія былі распрацаваныя падчас "халоднай вайны" для вядзеньня "кліматычнай вайны", калі Саветы марылі зьнішчыць амэрыканскія хлебныя нівы, пасьля выбуху ў Чанобылі Расея змагла замяніць хмару радыёактыўнага пылу на дождж, каб гэтым выратаваць Маскву ад чарнобыльскай радыяцыі. Па словах др. Флаўерса, калі тоны радыёактыўнага пылу спачатку зьнесеныя ветрам ў бок Гомелю пачалі рухацца на ўсход, то ў Гомлі пачаў падаць чорны дождж. Пыл асыпаўся на Беларусь, і Масква была ўратаваная! Паводле словаў сьведкі, які ў тую ноч вяртаўся зь вяселля дахаты, ён бачыў, як транспартныя самалёты лёталі з адкрытымі дзьвярыма над гарадам у розных напрамках. Хутка пасьля гэтага пайшоў дождж. Раней адзін былы савецкі пілот у размове з замежным вучоным таксама прызнаўся, што той дождж быў выкліканы штучна.

Ахвяры выбуху на чарнобыльскай атамнай станцыі былі адносна невялікія, 31 чалавек, у параўнаньні з мільёнамі людзей, якія потым пацярпелі ад радыяцыі. У некаторых мясцовасьцях Беларусі захворваньні на рак шчытападобнай залозы павяліччыліся на 1925%. Паводле дасьледаваньняў Сусьветнай Арганізацыі Здароў'я ўзровень захворваньняў сярод беларускіх дзяцей будзе падвышацца і надалей.

Др. Флаўерс, прафэсар Кінгстонскага ўнівэрсытэту ў Лёндане, моцна верыць, што пра тыя падзеі ведае нашмат больш людзей, але яны баяцца публічна выказваць. 1 траўня сёлета др. Флаўерс прачытаў лекцыю пра штучны дождж. Праз нейкі час ён быў выкліканы ў міліцэйскі пастарунак, дзе афіцэр КГБ даў яму прыказ пакінуць тэрыторыю Беларусі на працягу 48 гадзінаў.

***Падрыхтаваў С. БУДКЕВІЧ***

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Беларусь за месяц

## Міністра спорту не пусьцілі на Алімпіяду

За тыдзень да адкрыцьця Алімпійскіх гульняў Эўрапейскі зьвяз распаўсюдзіў заяву, у якой палічыў "абсалютова непрымальнаю" прысутнасьць міністра спорту і турызму Юрыя Сівакова ў Атэнах. У заяве зазначалася, што Эўразьвяз вельмі заклапочаны інфармацыяй пра тое, што беларускую дэлегацыю мае ўзначаліць чалавек — адзін з асноўных фігурантаў дакладу Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы (ПАРЭ) аб зьнікненьнях вядомых у Беларусі людзей — Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Зьмітра Завадзкага. У той час Сівакоў быў міністрам унутраных справаў, і праваабаронцы, і сем'і зьніклых мяркуюць, што ён мае дачыненьне да гэтых зьнішчэньняў.

Дакумэнт Эўразьвязу быў прыняты як вынік рэзалюцыі ПАРЭ, прынятай у красавіку на падставе дакладу Хрыстаса Пургурыдэса. Нагадаем, што ў рэзалюцыі адзначалася, што Парлямэнцкая асамблея лічыць "за нямэтазгоднае мець якія-небудзь кантакты з афіцыйнымі ўладамі Беларусі, а таксама дапускаць удзел Беларусі ў міжнародных пагадненьнях, пакуль не будуць зробленыя крокі па расьсьледаваньні зьнікненьняў людзей і пакараньні вінаватых ў гэтых злачынствах".

Сам Сівакоў назваў наступствы заявы Эўразьвязу сур'ёзнаю траўмаю для сябе, прайшоўся па эўрапейскай дэмакратыі, а таксама заявіў аб прэзумпцыі невінаватасьці. Але ў Атэну не паляцеў. Зрэшты Эўразьвяз паступіў вельмі гуманна. Сівакова маглі арыштаваць наўпрост у аэрапорце і этапаваць у Гаагу — Міжнародны трыбунал, які разглядае справы кшталту сэрбскіх ваенных злачынцаў. Не пусьцілі на Алімпіяду таксама міністраў спорту Зымбабвэ і М'янмы. Там таксама парушаюцца правы чалавека.

Між іншым, на сайце найбуйнейшай беларускай спартовай газэты "Прессбол" 58% карыстальнікаў палічылі рашэньне Эўразьвязу наконт беларускага міністра спорту і турызму як правільнае. І толькі 25% выказаліся супраць такога рашэньня.

## Паўлічэнку ўзнагародзілі

Кіраўнік спэцыяльнай брыгады Міністэрства ўнутраных справаў, падпалкоўнік Дзьмітры Паўлічэнка атрымаў ордэн Рускай праваслаўнай царквы сьвятога роўнаапостальнага князя Ўладзімера — за актыўны ўдзел у будаўніцтве праваслаўнага храму на тэрыторыі вайсковай часткі. За Паўлічэнку хадайнічаў кіраўнік Беларускага экзархату мітрапаліт Філярэт. Нагадаем, што Паўлічэнка лічыцца непасрэдным арганізатарам зьнікненьняў апанэнтаў палітычнага рэжыму — Ганчара, Красоўскага, Завадзкага, Захаранкі.

## Першая ластаўка

2 жніўня ў Беларусі была забароненая першая партыя. Вярхоўны суд, паводле пазову Міністэрства юстыцыі, прыняў рашэньне аб ліквідацыі Беларускай партыі працы, якая ўваходзіць у склад дэмакратычнай "Народнай кааліцыі "5+" і яднае прыхільнікаў незалежных прафсаюзаў. Партыю абвінавацілі ў сыстэматычным парушэньні Грамадзянскага кодэксу, у прыватнасьці, няяснасьці зь юрыдычным адрасам і яе структур.

## ЭГУ зачынілі

27 ліпеня міністар адукацыі Беларусі Аляксандар Радзькоў падпісаў загад аб ануляваньні ліцэнзіі Эўрапейскаму гуманітарнаму ўнівэрсытэту. Паводле чыноўнікаў Мінадукацыі, адукацыя ў ЭГУ слабая і не адпавядае беларускім нормам. Між тым, паводле апытаньняў інтэрнэт-рэсурсаў, унівэрсытэт быў адным з найпрэстыжнейшых у СНД.

Нагадаем, што яшчэ ўзімку Міністэрства адукацыі паспрабавала адправіць у адстаўку рэктара, доктара філязофіі Анатоля Міхайлава. Але тады за рэктара заступілася грамадзкасьць, студэнты ды паслы Эўразьвязу. Потым, увесну, доўга не хацелі даваць унівэрсытэту ліцэнзію.

21 ліпеня ЭГУ атрымаў дакумэнт, згодна зь якім павінен быў выселіцца з будынку, у якім разьмяшчаўся. Будынак належаў усемагутнаму Кіраўніцтву справаў прэзыдэнта, якое і ануляваламa арэнду. І вось зачынілі. Малакольскасныя акцыі студэнтаў у сталіцы ні да чога не прывялі. Студэнтаў пераводзяць у іншыя ВНУ. У прыватнасьці, 670 чалавек працягнуць адукацыю ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце. Рэшта — у Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце інфарматыкі й радыёэлектронікі.

Рэктар ЭГУ Анатоль Міхайлаў падчас он-лайн канфрэнцыі на "Радыё Свабода" заявіў пра мажлівасьць працягу адукацыі студэнтаў у вышэйшых навучальных установах Нямеччыны, Польшчы, Баўгарыі.

## Флаўэрса выселілі

2 жніўня, паводле патрабаваньня беларускіх уладаў, Беларусь пакінуў грамадзянін Вялікай Брытаніі, супрацоўнік Кінгстанскага ўнівэрсытэту Алан Флаўэрс. Цягам найбліжэйшых пяці гадоў яму забаронены прыезд у Беларусь. Прычына выдаленьня — супрацоўніцтва Флаўэрса зь беларускімі недзяржаўнымі грамадзкімі арганізацыямі.

## Перадвыбарчыя навіны

У Беларусі скончылася першы этап кампаніі па выбарах у парлямэнт — фарміраваньне акруговых камісій.

З дэмакратычных партыяў, што падтрымліваюць кааліцыю "5+", найбольшае прадстаўніцтва ў Партыі камуністаў Беларусі — 19 чалавек. Аб'ядная грамадзянская партыя высунула 91 прадстаўніка, але ў "фінал" трапілі толькі 5. Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя "Народная грамада" з 80 чалавек правяла ў склад камісіяў 2 чалавекі, БНФ 6 з 78. Менавіта камісіі будуць займацца рэгістрацыяй кандыдатаў — вырашаць, каго зьняць каго пакінуць на дыстанцыі.

Тым часам Цэнтарвыбаркам зарэгістраваў 555 ініцыятыўных групаў кандыдатаў у дэпутаты. 74 прэтэндэнтам адмовілі ў рэгістрацыі. Сярод іх — народнай артыстцы Беларусі Зінаідзе Бандарэнцы і праваабаронцы Валеру Шчукіну. Найбольш ініцыятыўных груп зарэгістравалі сябры Аб'еднанай грамадзянскай партыі — 51, "Народная грамада" — 35, Партыя БНФ — 32. Кандыдаты будуць таксама вылучацца і ад партый, зьезды якіх пачынаюцца пра канцы жніўня.

## Створаны новы рух

20 жніўня ў Менску было заключана пагадненьне аб каардынацыі дзейяньняў падчас парлямэнцкіх выбараў паміж трыма кааліцыямі — Эўрапейскай кааліцыяй "Свабодная Беларусь" (куды ўваходзяць сябры БСДП "Народная Грамада", Хартыі'97, страйкам прадпрымальнікаў і інш.), дэпутацкай групай "Рэспубліка" і моладзевай кааліцыяй "Маладая Беларусь" (што складаецца з сябраў "Маладога фронту" і "зуброў"). Паводле слоў лідэра БСДП (НГ) Міколы Статкевіча, прадстаўнікі гэтых трох кааліцый будуць каардынаваць свае выбарчыя кампаніі, арганізоўваць агульнае назіраньне за выбарамі, а таксама сфарміруюць адзіны сьпіс кандыдатаў па выбарчых акругах.

Тым часам у шэрагі БСДП уступіў адзін зь лідэраў парлямэнцкай групы "Рэспубліка" генэрал Валер Фралоў.

## Гайдукевіч ідзе ў прэзыдэнты

21 жніўня ў Менску прайшоў зьезд падпрэзыдэнцкай Лібэральна-дэмакратычнай партыі. Зьезд вылучыў свайго лідэра Сяргея Гайдукевіча кандыдатам у прэзыдэнты на выбарах 2006 году. Гайдукевіч ужо ўдзельнічаў у выбарах 2001 году і набраў 2,5 працэнты галасоў. Тады злыя языкі казалі, што ягонае вылучэньне было інсьпіравана Адміністрацыяй прэзыдэнта. Для большай "дэмакратычнасьці" выбараў.

Што да ўдзелу ў парлямэнцкіх выбарах, то ЛДП паспрабуе выставіць сваіх кандыдатаў ва ўсіх 110 акругах. І сваёй галоўнай задачай бачыць растлумачэньне людзям "антынароднай сутнасьці" "Народнай кааліцыі 5+".

## Навіны выжываньня

У жніўні беларускі ўрад зацьвердзіў новы памер пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва. Ягоная велічыня разьлічваецца ў цэнах чэрвеня.

Цяпер новы сярэдні бюджэт пражытачнага мінімуму на месяц складае 128 тысяч 390 рублёў (58,5 амэрыканскага даляра). Для працаздольнага насельніцтва — 137 тысяч 510 рублёў ($63.6), для пэнсіянераў — 110 тысяч 590 рублёў ($51,2), для студэнтаў — *103 тысячы 180 рублёў ($47,8)*.

Таксама ў Беларусі былі павялічаныя памеры дапамогі сем'ям, што выхоўваюць дзяцей.

Аднаразовая дапамога пры нараджэньні дзіцяці цяпер складае 256 тысяч 780 рублёў ($119), дапамога маці па доглядзе дзіцяці ва ўзросьце да трох гадоў складае 83 тысячы 450 рублёў у месяц ($38,6), старэйшым за тры гады — 38 тысяч 520 рублёў ($17,8).

У ліпені сярэдняя налічаная зарплата работнікаў у Беларусі склала 367 тысяч 141 рубель (каля $170). У чэрвені яна складала 355 тыс. 230 рублёў. Сярэдні налічаны заробак рабочых і службоўцаў у ліпені склаў 380 тыс. 33 рублі ($176). Відавочна, што рэальны заробак крыху меншы.

## На Палесьсі злавілі піраньню

У возеры Белае, што ў Бярозаўскім раёне на Берасьцейшчыне, рыбак Мікола Шуст злавіў незвычайную рыбу. Ягоныя калегі доўга разглядалі рыбіну, гарталі даведнікі і прыйшлі да высновы, што трапілася самая звычайная піраньня, якая традыцыйна жыве ў Паўднёвай Амэрыцы. Іхтыёлагі мяркуюць, што выпусьцілі ў возера цёплалюбівую рыбку з акварыюму.

*Уласны карэспандэнт*

# Браць удзел у выбарах ці байкатаваць?

Выбары ў беларускую Палату прадстаўнікоў (або "палатку", як яе трапна называе апазыцыя) адбудуцца 17 кастрычніка г. г. Гарачае пытаньне сёньняшняга дня: ісьці на выбары ці байкатаваць іх? Тыя, хто за байкот (байкотаўцы) абвінавачваюць тых, хто зьбіраецца браць удзел (удзельнікаўцаў), ледзь не ў нацыянальнай здрадзе, у калябаранцтве з рэжымам. Тымчасам як у адрас байкотаўцаў гучыць *паблажлівa з супрацьлежнага* боку: "наіўныя рамантыкі". Але і першыя, і другія ведаюць аднолькава добра, што, агульна бяручы, вынікі выбараў будуць сфальсыфікаваныя. З гледзішча на разуменьне й бачаньне гвалту над дэмакратычным працэсам байкокаўцы й удзельнікаўцы ня розьняцца адныя ад другіх. Яны розьняцца ў падыходзе да галоўнага палітычнага пытаньня: як дэмакратычныя дзяржавы Захаду будуць у далейшым ставіцца да менскае Палаты Прадстаўнікоў, будзе яна для іх легітымным парлямантам, ці толькі безгалосаю прыладаю ў руках "апошняга дыктатара Эўропы"?

Выбары – падзея кароткатрывалая. Трэба глядзець наперад на ўвесь чатырохгадовы перыяд, на працягу якога будзе існаваць "палатка". Мэтаю апазыцыі павінна быць: паказаць, што пры сучасным палітычным рэжыме свабодныя, справядлівыя і празрыстая выбары – рэч немагчымая. Але чые довады тут больш пераканальныя – словы байкотаўцаў ці факты ўдзельнікаўцаў, якія навочна прадэманстравалі, што дэмакратыяй у РБ і ня пахне?

Эўрапейскі Зьвяз вельмі марудна прыходзіць да пераканаyьня, што лукашэнкаўскі рэжым нерэфармабельны, што ён не дапусьціць ніякага паслабленьня гвалту над апазыцыяй, над няўрадавымі арганізацыямі ды незалежнымі сродкамі масавай інфармацыі. Запас цярплівасьці ў заходніх эўрапейцаў у дачыненьні да Беларусі, нажаль, вельмі вялікі. Гэта стала відавочна, калі нядаўна ў Эдынбургу яны пайшлі на (амаль здрадніцкае) пагадненьне з афіцыйнымі дэлегатамі зь Менску, якія паабяцалі спрыяць дэмакратызацыі выбарчага працэсу у Беларусі. Эўрапейцам, хочам мы гэтага ці не, трэба даказваць яшчэ й яшчэ на фактах, што Лукашэнка на саступкі ня пойдзе. І выбары ў "палатку" – толькі чарговая нагода паказаць на канкрэтных прыкладах, што гэта так. У абліччы такога (мы кажам, наіўнага) спадзяваньня заходніх эўрапейцаў на мэтамарфозу лукашэнкаўскага рэжыму удзельнікаўцы зробяць больш, чым байкотаўцы. Бо ў байкотаўцаў – толькі словы, тымчасам як у ўдзельнкаўцаў – канкрэтныя факты.

Галоўнаю мэтаю апазыцыі павінна быць непрызнаньне заходнімі дзяржавамі легітымнасьці новае "палаткі". І калі такое непрызнаньне настане, дык куды большая заслуга ў гэтым будзе належаць той частцы апазыцыі, што брала ўдзел у выбарах.

Удзел у выбарах, апрача ўсяго іншага, дае магчымасьць апазыцыйна настаўленым кандыдатам і тым выбарцам, што падтрымваюць іх, набываць практычныя навыкі праводзіць выбарчую кампанію, знаёміцца з канкрэтнымі вымогамі гэтага складанага працэсу, пабачыць сэнс у пачынаньні з малога, вучыць выбарцаў крытычна ўзважваць альтэрнатывы. Выбарчая кампанія – гэта школа палітычнай працы. Дык хто больш выйграе – той, хто ходзіць у школу, ці той, хто стаіць ля ўваходу з заклікам "Байкот!"?

Апрача ўсяго іншага, партыя, якая ставіць стаўку толькі на байкот, заганяе сябе ў тупік на выпадак прэзыдэнцкіх выбараў. Бо калі казаць, што няма сэнсу балатавацца ў выбарах, бо загадзе ведама, што вынікі будуць сфальсыфікаваныя, дык у моц лёгікі і ў прэзыдэнцкіх выбарах ня трэба ўдзельнічаць, бо рэжым застаецца тойжа і пагроза фальсыфікацыі будзе тая самая.

*Янка ЗАПРУДНІК*

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



*Сёлета ў мясцовай газэце флярыдзкага гораду Норт Порт быў надрукаваны артыкул пра ведамага дзеяча беларускай эміграцыі, былога Старшыню Рады Беларускай Народнай Рэспублікі шаноўнага доктара Язэпа Сажыча. Прапануем вашай увазе нязначна скарочаны пераклад гэтага артыкулу.*

# Ад палоннага да доктара: гісторыя жыцьця аднаго чалавека

Язэп Сажыч, 87, з Норт Порту зьдзейсьніў свае "вялікія ўцёкі" два разы. Ён удзельнічаў у франтавых баёх супраць немцаў у 1939 годзе. Змагаўся на працягу двух тыдняў, пакуль ня быў паранены й узяты ў палон.

14 верасьня 1939 году Сажыч, польскі афіцэр зь Беларусі быў дастаўлены немцамі ў турэмны шпіталь. Сажыч сказаў, што прынялі яго і лячылі раны добра. На шчасьце ахова там была слабая. Ён зьбёг з турэмнага шпіталю і прабраўся на Украіну, дзе паступіў у Львоўскі ўнівэрсытэт, каб працягнуць адукацыю.

"Пасьля вайны й раненьня я здолеў гэта зрабіць", - сказаў Сажыч. "Я дзякую Бога за гэта."

Калі немцы напалі на Савецкі Саюз у 1941 годзе, Сажыч быў арыштаваны савецкімі вайсковымі ўладамі. Ён здолеў уцячы ізноў, але ведаў, што ня можа вярнуцца дахаты, бо там яшчэ былі камуністы. "Гэта было небясьпечна ісьці дахаты, таму што я быў польскім афіцэрам", - сказаў Сажыч.

Ён далучыўся да Ўкраінскага падпольнага войска, таму што не хацеў ваяваць за камуністаў. "Мы ваявалі за нашую свабоду", - сказаў Сажыч.

Малады афіцэр вярнуўся ў Беларусь ў 1942 годзе, атрымаў званьне маёра і стаў кіраўніком у школе афіцэраў.

Пасьля вайны ён паступіў ва ўнівэрсытэт горада Марбургу ў Нямеччыне, дзе атрымаў адукацыю доктара мэдыцыны.

Сажыч пераехаў у Злучаныя Штаты ў 1950 годзе і атрымаў мэдыцынскі лайсэнс ня гледзячы на моўны бар'ер. "Гэта было цяжка, бо я ня ведаў мовы" – сказаў Сажыч, які ведае нямецкую, польскую, расейскую, украінскую і трошкі латыну. "Веданьне нямецкай дапамагло мне вывучыць ангельскую. А веданьне латыны дапамагло з мэдыцынскай тэрміналёгіяй." Здаўшы іспыты ён працаваў анастэзыёлягам на працягу 25 гадоў.



Сажыч пераехаў у Норт Порт каля 15 гадоў таму, калі былі пабудаваныя ўкраінскія кандамініюмы. Там ён жыў першыя чатыры гады.

20 гадоў, як ён ужо на пэнсіі, і 25, як аўдавеў. Ягоная жонка Барбара памерла ад раку, калі ёй было трошкі больш за 50.

Калі Сажыч і ягоная жонка прыехалі ў ЗША, іхняй дачцы Гелене была 12 гадоў. Сажыч памятае, як ягонай жонкі маці прыяжджала да іх з Польшчы й чакадала ім яшчэ мецьь сына. Ён пасьмяяўся тады, але ў хуткім часе жонка "нечакана" зацяжарала. Гэта турбавала яго, бо тады яму было ўжо 44 гады, а жонцы 40. У іх нарадзіўся сын Язэп, малодшы. І яны называлі яго "цуда-хлопчыкам".

Сажыч пасылаў яго ў мэдычную школу, але сын сказаў, што хоча быць "лекарам душаў". Цяпер ён сьвятар.

Сажыч вельмі ганарыцца сваімі дзецьмі. Ягоная дачка сказала, што яна вельмі ганарыцца сваім бацькам. "Ён заўсёды моцна ўплываў на жыцьці ўсіх нас", - сказала Гелена.

Біяграфія Сажыча зьявілася ў кнізе "Гістарычны слоўнік Беларусі". Ён быў Старшынём Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні і ганаровым старшынём Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў.

Сажыч меў магчымасьць падарожнічаць па сьвеце. Наведаў і Беларусі ў 1993 годзе, дзе быў ганаровым госьцем і сустракаўся з многімі палітычнымі дзеячамі.

"Я не такі здольны, як вязучы", - сказаў Сажыч. "Я моцна веру ў наканаваньне. І гэта было маё наканаваньне."

***На здымку: доктар Язэп Сажыч ля карціны з выявай роднага гораду.***

# Індэйцы вачыма беларусаў

*Адзін зь ведамых беларускіх амэрыканцаў параіў нам зьвярнуцца праз вашую газету да ўсіх, хто можа паведаміць любыя факты з галіны беларуска-індэйскіх кантактаў, уключаючы простыя выказваньні адносінаў да тых ці іншых бакоў жыцьця індэйцаў.*

*Паведамляем некаторыя факты пра Беларуска-Індэйскае Таварыства, Інфармацыйна-дарадчы цэнтар для ўсіх, хто хоча больш прачытаць пра індэйцаў на беларускай і іншых мовах, выбраць найбольш беларуска-арыентаваныя індэйскія кантакты, але найперш для тых, хто шукае новае і нестандартнае ў міжнацыянальных адносінах.*

## ПРАДМОВА: БЕЛАРУСКА-ІНДЭЙСКАЯ ДАСЬЛЕДЧАЯ ІНІЦЫЯТЫВА ПА РАКУ

(Belarusian - American Indian Cancer Research Initiative)

Зараз, у гэты момант, многія разумныя людзі, у т. л. сябры БІТ, працягваюць курыць, ня гледзячы на шматлікія сьведчаньні й напаміны, што гэта просты шлях да рака лёгкага. Яго мы, Беларуска-індэйская дасьледчая ініцыятыва па раку, ужо дамовіліся называць "індэйскаю хваробаю": індэйцы, якія курылі тысячы гадоў, верагодна, станавіліся ахвярамі гэтай хваробы часцей, чым "дакалумбавыя" народы Старога Свету. Калі перафразаваць Вайна Дэлорыю-малодшага, "індэйцы памерлі за свае грахі", бо стымуляцыя нікацінам - "грэх", а прапанова "люлькі міру" - "трагічная недарэчнасьць". Цяпер узровень захворваньня і сьмяротнасьці ад рака ў індэйцаў самы высокі сярод амэрыканскіх меншасьцяў, і гэты ўзровень быў-бы яшчэ больш сумны, калі-б яны не жылі ў адной з найбагацейшых краінаў, якая не шкадуе грошай на ахову здароўя карэнных жыхароў. Дэтальнае параўнаньне таго, як хвараюць, лечацца і паміраюць ад раку ў Індэйскай Амерыцы й Беларусі, паказвае, што Беларусь - не самая разьвітая рэзэрвацыя. Але рэзэрвацыі павінны разьвівацца, каб дасягнуць адной з усім сьветам працягласьці й якасьці жыцьця.

## СТВАРЭНЬНЕ

Беларуска-індэйскае таварыства было створанае 3 студзеня 1987 году дзякуючы знаёмству і пагадненьню двух гомельскіх індэяністаў, адзін зь якіх зацікавіўся індэйцамі ў канцы 60-х, другі - у сярэдзіне 70-х гадоў.

## СЯБРЫ

Колькасьць сяброў БІТ ніколі не перавышала 50 чалавек, і, нажаль, гэтая ініцыятыва так і засталася "гомельскаю". Найбольш "разьвітыя" (узровень "матар'яльнай культуры") менскія індэяністы ня выказалі цікавасьці ні да беларусізацыі, ні да палітызацыі таварыства. Тым ня менш, сярод былых і (фармальна) цяперашніх сяброў былі такія, што ўнесьлі вельмі важкі ўнёсак у стварэньне бібліятэкі й архіву БІТ - галоўнага, што мы маем. У Таварыства ўступілі й асобы індэйскага паходжаньня, што жывуць у Канадзе і ЗША.

## ГІСТОРЫЯ БІТ

Дасягненьні БІТ можна-б было вельмі дакладна і поўна пералічыць, бо ўсё, што тычыцца індэяніцкай дзейнасьці й інфармацыі, мы заўсёды імкнуліся дакумэнтаваць дакладна і поўна. Але мы ня лічым неабходным пісаць гісторыю БІТ у той час, як трэба працягваць праграмы, якія ўплываюць на рэальнае жыцьцё людзей, перш за ўсё на іх выжываньне.

## СЭНС

Найвялікшы "сэнс існаваньня" БІТ заключаецца ў тым, што мы паступова "індэянізавалі" Беларусь: тысячы людзей зьвярнулі большую ўвагу на індэйцаў, на маларядомыя аспекты іхняга жыцьця. Дагэтуль распаўсюджанае памылковае ўяўленьне пра індэйцаў як пра штосьці "дзіцячае". Мы стараліся ў спакойнай, стрыманай манэры паказаць, што гісторыю і сучаснасьць індэйцаў складаюць зусім не "інфантыльныя" праблемы, і што ў іх можна навучыцца большаму, чым прынята лічыць. Многія публікацыі пра індэйскія "прыярытэты" зьявіліся ў беларускім і замежным друку менавіта дзякуючы актыўнай прысутнасьці БІТ.

## НАШЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

Мы ня можам сказаць, што надрукавалі шмат артыкулаў у прэсе. Тым не менш, гэта даволі паказальныя ўзоры. Іх тэматычны й геаграфічны дыяпазон - "ад Аляскі да Вогненнай Зямлі".

## НАШ БЮЛЕТЭНЬ

Практычна ўвесь час мы рабілі інфармацыйны бюлетэнь БІТ. Гэта былі машынапісныя або кам'ютарныя "выданьні", але нельга сказаць, што на іх нельга спасылацца. Цяпер мы імкнёмся ствараць наш бюлетэнь (пад назваю "Весьнік Беларуска-Індэйскага Таварыства") як "назапашвальнік" інфармацыі па сэрыях (ключавыя словы) і заклікаем падпісваца на яго, абяцаючы якасьць і апэратыўнасьць. Ангельскамоўны "Belarusian - American Indian Society Newsletter" разьлічаны на папулярызацыю найбольш важных і цікавых зьвестак па беларуска-індэйскіх сувязях.

## ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКА-ІНДЭЙСКІХ СУВЯЗЯЎ

Яна афармляецца ў манаграфію і "Беларуска-індэйскую энцыкляпэдыю", якія базуюцца на "Беларуска-індэйскай бібліяграфіі" (скразная фіксацыя "беларуска-індэйскіх фактаў" у крыніцах на любых мовах).

## КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ І ЭЛЕКТРОННАЯ ПЕРАПІСКА

Мы ганарымся значнаю колькасьцю пасланьняў і інфармацыйных дароў ад прадстаўнікоў самых розных карэнных народаў Амэрыкі. Пералік іх быў-бы вялікі і ўражваў-бы разнастайнасьцю "плямёнаў", заняткаў і асабістых дасягненьняў нашых карэспандэнтаў. Нажаль, нашая беларуска-амэрыканская перапіска заўсёды была вельмі сьціплаю, хоць ўсе адказы ад беларусаў - найвялікшая каштоўнасьць.

## ДАВЕДКІ ПРА БІТ НА АНГЕЛЬСКАЙ МОВЕ

Ангельскамоўная інфармацыя пра БІТ, якая-б была карысная для беларусаў і нашчадкаў беларусаў, што не валодаюць беларускаю моваю, найбольш прысутнічае ў нашай перапісцы, але большая яе частка яшчэ не пераведзеная ў кампутарныя файлы.

## СПАДЗЯВАНЬНІ

Мы спадзяёмся, што лісты ад беларусаў з Амэрыкі й іншых далёкіх краёў папоўняць скарбніцу беларуска-індэйскай інфармацыі - на беларускай і на любых іншых мовах. Прымем усё з удзячнасьцю.

***Алесь СІМАКОЎ***
***выканаўчы сакратар БІТ***
***Belarusian – American Indian Society***
***P.O. Box 114, Gomel 246049, BELARUS***
***E-mail: baicri@nativeweb.net***

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018






# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №9 (464)


# Беларусь - фарпост на Ўсходзе

## Уводзіны. Гістарычны агляд

На працягу ўсёй гісторыі, да канца XVIII стагодзьдзя Беларусь была шчытом Эўропы на Ўсходзе. У XIII стагодзьдзі адбылося аб'яднаньне беларускіх славянскіх княстваў у магутную дзяржаву – Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ) альбо Літва (па назве цэнтральнага славянскага племя, чые князі ініцыявалі аб'яднаньне беларускіх земляў). Вялікае Княства спыніла мангольскую агрэсію ў Эўропу і паклала мяжу імпэрыі Чынгіз-хана. Барацьба з Усходам (спачатку з Залатою Ардою, а потым з Масквой) не спынялася ўвесь час. Па мяжы паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Масквою праходзіла лінія супроцьстаяньня розных палітычных сыстэмаў, розных цывілізацыяў і розных сьветаў – дэмакратычнага, культурнага эўрапейскага і дэспатычнага, тыранічнага ўсходняга.

У канцы XVI стагодзьдзя Вялікае Княства Літоўскае ўтварае з Польшчаю "саюз двух народаў" – "Рэспубліку" (Рэч Паспалітую). У канцы XVIII стагодзьдзя Рэч Паспалітая была ліквідаваная трыма імпэрыямі: Расейскаю, Пруска-нямецкаю і Аўстрыйскаю. Землі Беларусі (ВКЛ) анэксавала Расея.

Тэрмін Беларусь (умоўная назва ўсходніх беларускіх тэрыторыяў) мае позьняе паходжаньне, замацаваўся ў выніку расейскай акупацыйнай палітыкі вынішчэньня ўсяго беларускага (забароны назвы Беларусь і т.п.) і пад уплывам – беларускага нацыянальна-культурнага і палітычнага руху, які легалізаваў і распаўсюдзіў гэтую назву на ўвесь народ, і ў 1918 годзе прывёў да ўтварэньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) у межах этнічнага расьсяленьня беларусаў (ВКЛ без Жамойці).

У гэты-ж час дзяржаўную незалежнасьць аб'явіла былая Жамойць (далучаная балцкая частка ВКЛ) са сталіцаю ў Коўне (Каўнасе), якая назвалася "Летувой" альбо "Літоўскай рэспублікай". Адсюль (ад пераназваньня этнасаў і дзяржаваў) пачалася тэрміналягічная і гістарычная блытаніна і, што найгорш, – маніпулятарства.

Беларускую Народную Рэспубліку акупавала ў канцы 1918 году бальшавіцкая Расея. У выніку расейска-польскай вайны (1919-1921 гг.) Беларуская Народная Рэспубліка была падзеленая акупантамі. Заходнюю частку Беларусі са сталіцай Вільняй забрала Польшча, усходнюю – савецкая Расея.

З пачаткам 2-й Сусьветнай вайны й акупацыяй савецкай Расеяй заходняй Беларусі Сталін мэтанакіравана аддаў Летуве сталіцу Беларусі Вільню ўзамен за ўвядзеньне на тэрыторыю Летувы савецкага войска. Увёўшы войска, Сталін акупаваў Летуву, але Вільня і надалей засталася ў савецкай Летуве.

Пры зьнешне добрых адносінах беларуская сталіца Вільня і Віленшчына, якія засталіся ў Летуве, ёсьць галоўнай крыніцаю скрытай напружанасьці паміж беларусамі й летувісамі. Беларуская дзяржава ня можа нармальна функцыянаваць без сваёй гістарычнай і культурнай сталіцы й ніколі не пагодзіцца зь яе стратаю. Тым часам маладое пакаленьне летувісаў ужо лічыць Вільню сваёю.

У 1990 годзе ад імя Вярхоўнага Савету Беларускай ССР было выстаўленае патрабаваньне (падпісанае Старшынёй Вярхоўнага Савета М. Дземянцеям) да кіраўніцтва Летувіскай ССР вярнуць Беларусі Вільню ў выпадку выхаду Летувы са складу Савецкага Саюзу. Аднак тое патрабаваньне было інсьпіравана Масквою, каб захаваць СССР ад распаду. Пра вяртаньне Беларусі яе сталіцы Вільні ў Крамлі ніхто ня думаў. Хацелі выкарыстаць беларусаў у сваёй імпэрскай палітыцы. Таму Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", разумеючы правакацыйны крамлёўскі характар гэтага дакумэнта, не падтрымаў яго.

Прынцыповыя патрабаваньні з боку БССР былі выстаўленыя ў 1937 годзе Расеі аб вяртаньні беларускага гораду Смаленску і беларускіх тэрыторыяў Смаленскай, Бранскай і часткі Пскоўскай вобласьцяў, забраных у Беларусі расейскімі бальшавікамі яшчэ ў пачатку 20-х гадоў.

У 1990 годзе дэлегацыя дэпутатаў ад БНФ Вярхоўнага Савету БССР вяла перамовы з дэпутатамі Вярхоўнага Савету Расеі й кіраўніцтвам Смаленскай вобласьці аб вяртаньні Смаленска і Смаленшчыны Беларусі.

## Рух за дэмакратыю і незалежнасьць

19 кастрычніка 1988 года быў створаны Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" (БНФ). Галоўныя палітычныя задачы Фронту – дэмакратыя і незалежнасьць Беларусі. Гэтыя задачы ўдалося ажыцьцявіць у 1991 годзе. Дзякуючы дзейнасьці фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, было спыненае існаваньне КПСС і камсамолу, 25 жніўня 1991 году Беларусь аб'яўлена незалежнаю краінаю. Пачалося змаганьне за дэмакратычны шлях і за перамену ўлады, бо ўся ўлада заставалася ў руках савецкай прарасейскай намэнклятуры.

Беларускі Народны Фронт ад пачатку меў геапалітычную канцэпцыю існаваньня Беларусі ў сьвеце, якая пасьля распаду СССР зьменшыла-б небясьпеку для Беларусі з боку Расеі й з боку Нямеччыны. Такой ідэяй быў плян Балтыйска-Чарнаморскай Садружнасьці (БЧС) краінаў Усходняй Эўропы (Беларусь, Украіна, Эстонія, Латвія, Летува, Малдова, у пэрспэктыве маглі далучыцца Польшча і Славакія). Гэта плян вяртаньня трэцяй сілы ў Эўропе (так, як было раней, у XIII-XVIII ст.). БЧС – усход Эўропы перад эўраазіяцкай Расеяй.

26 красавіка 1990 года дэпутаты Вярхоўнага Савету БССР ад БНФ склікалі ў Менску першую міжнародную канфэрэнцыю краінаў Усходняй Эўропы па стварэньню БЧС. Рэакцыя камуністычнай Масквы на ідэю БЧС была надзвычай admоўная і пагрозьлівая. Ідэю БЧС ацэньвалі як падкоп пад СССР.

У лістападзе гэтага-ж 1990 года дэпутаты парляманцкай фракцыі БНФ склікалі ў Менску другую міжнародную канфэрэнцыю па арганізацыі БЧС. Мною былі праведзеныя перамовы з Прэм'ер-міністрам тагачаснага ўраду БССР В. Кебічам аб падтрымцы ідэі БЧС і канфэрэнцыі. Было дасягнута разуменьне. Канфэрэнцыя адбывалася ў Доме ўраду ў галоўнай залі Савета Міністраў. Вечарам перад заканчэньнем паседжаньня прышлі перапалоханыя чыноўнікі Саўміна – пасланцы Прэм'ера — і перадалі распараджэньне пакінуць залю ўраду, але паседжаньне, практычна, ужо скончылася. Прэсавая канфэрэнцыя адбылася ў будынку Вярхоўнага Савету.

Прычына такіх паводзінаў Кебіча заключалася ў тым, што вечарам яму пазванілі з Масквы Ельцын і ў грубай форме запатрабавалі спыніць канфэрэнцыю. Кебіч падпарадкаваўся, як умеў.

У працяг пляну БЧС у Беларускім Народным Фронце была распрацаваная праектная прапанова аб пабудове Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектару. Дасягнутая падтрымка Ўкраіны й Латвіі. У 1993 годзе, вярнуўшыся зь Менску пасьля чарговай канфэрэнцыі па нафтавым калектары, бясьследна зьнік, разам з праектнымі дакумантамі па Калектару, намесьнік старшыні Народнага Руху Ўкраіны Сяргей Байчышын. Расея выступала ярасна і нэрвова супраць ідэі БЧС і Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектару.

Зь сярэдзіны 1992 году пачынаецца пранікненьне агентуры расейскага КГБ ва ўсе структуры ўлады Беларусі. У непасрэдную залежнасьць ад іх трапляе прэм'ер Кебіч, які робіцца выканаўцам іхняй палітыкі. Менавіта расейскі КГБ курыраваў у 1994 годзе выбарчую прэзыдэнцкую кампанію адначасна двух сваіх стаўленьнікаў – В. Кебіча і А. Лукашэнкі – і, маніпулюючы, прывёў да ўлады Лукашэнку. Адносна дэмакратычны перыяд на Беларусі скончыўся.

## Рэжым

Рэжым Лукашэнкі ў Беларусі – гэта ёсьць унутраная акупацыя краіны расейскімі спэцслужбамі, зьдзейсьненая шляхам выкарыстаньня дэмакратычнага мэханізму выбараў, структураў улады й прысутнасьці ў кіраваньні краінаю старой савецкай намэнклятуры. Ключавыя пазыцыі ў кіраўніцтве Беларусяй захапіў расейскі КГБ. Палітыка акупацыйнага рэжыму – антыбеларуская. Яна накіраваная на задушэньне беларускіх незалежніцкіх дэмакратычных сілаў і на падрыў культурна-нацыянальнага існаваньня беларускай нацыі. (Зачыненыя беларускія школы, газэты, часопісы, радыё на беларускай мове, спаленыя беларускія падручнікі для школаў, адбываецца грубая русіфікацыя і рэпрэсіі супраць беларусаў, асабліва моладзі.) Мэта антыбеларускай палітыкі прамаскоўскага рэжыму – зьнішчыць асновы нацыянальна-культурнага жыцьця беларускага народа, укараніць і пашырыць уплывы Расеі ў Беларусі ва ўсіх сфэрах існаваньня, падрыхтаваць Беларусь да інкарпарацыі яе ў Расею.

Першаснай палітычнай зада-

Працяг на бач. 7

## Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца 11 верасьня 2004 г. ў залі Фундацыі імя П. Крэчэўскага па адрасу:

**166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

Даезд цягнікам падземкі F да прыпынку 169th St Прайсьці потым ад станцыі два блёкі на поўнач да скрыжаваньня 167 Street і Gothic Drive, дзе на іх скрыжаваньні знаходзіцца будынак Фундацыі.

Даезд аўтам з Брукліну і Мангэтану па Grand Central Parkway да зьезду Parsons Blvd, тады па сэрвіс роўд да 168 Street і па ёй зьвярнуць управа каля будынку школы, на Gothic Drive зьвярнуць зноў направа. На скрыжаваньні Gothic Drive і 167 Street стаіць будынак Фундацыі, які можна лёгка казнаць па бел-чырвона-белым сьцягу ля дзьвярэй.

Запрашаем сяброў аддзелу і ўсіх зацікаўленых.

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

**Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association*.**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Творчасьць нашых чытачоў

*Чытаю кожны нумар Вашай газэты, якую дасылае мне зямляк сп. Кастусь Акула, і кожны раз адзначаю для сябе, што для людзей, якія жывуць з радзімаю ў душы, не бывае далёкіх вёрстаў, межаў, акіянаў... Навіны ў "Беларусе" падаюцца так, нібы Вы ўсе жывяце, працуеце тут і ўсё ведаеце, што адбываецца. А адбываецца шмат. Але хочацца большага. Кожны з нас, як можа, гэтае большае набліжае.*

*Удзячнае Вам, што друкуеце мае матар'ялы. Яны, на мой погляд, дапаўняюць агульны партрэт жыцьця беларусаў. Я магу ня есьці, ня спаць, а вось ня думаць, не перажываць, не пісаць не магу. Таму дасылаю Вам яшчэ адзін матар'ял, які прашу надрукаваць. А напісаны ён з нагоды нядаўніх падзеяў, калі нашыя суседзі, краіны Балтыі й Польшча сталі паўнапраўнымі сябрамі Эўрапейскага Зьвязу, а мы, беларусы, зноў засталіся на задворках гісторыі. Як надоўга – невядома. Спадзяёмся, што ў нашых намаганьнях далучыцца да цывілізацыі дапаможа тая-ж суседка Польшча, якая стане пасярэдніцай і правадніцай нашых ідэяў і плянаў. Слова, у якое ўкладзена душа аўтара, здольнае разбудзіць, паказаць шлях, павесьці па ім наперад. Спадзяюся, што мой верш спадабаецца як беларусам замежжа, так і беларусам у Беларусі, калі яны змогуць прачытаць Вашую газэту.*

*Пра ўчора і сёньня, але найперш пра сучасную Польшчу гэты верш.*

Быў час: жылі адной мы хатай,
Савецкай, хілай і гнілой,
І не свабодна й не багата,
З праблемна-хворай галавой.
Ідэалёгія за "маці"
Была тады і нам і Вам.
І не знайсьці спакою ў хаце
Ні спадарам і не панам.
Хто як хацеў распараджаўся
І сваю волю дыктаваў.
Рабом паляк на сьвет зьяўляўся,
І беларус рабом стагнаў.
Урэшце лопнула цярпеньне:
Радзіўся салідарны рух –
Нацыянальнае збавеньне,
Што ўзгадавала польскі дух.
Шырокім крокам за прагрэсам
Наперад рушыў Пан Паляк,
А мы ў ранейшым блудзім лесе
Нібы сьляпое немаўля.
У Польшчы дыхае свабода,
Там прапісаўся дабрабыт,
Урад працуе для народа,
Грамадзтва ўжо – не інвалід.
На зьмены здольна, на рэформы,
Інавацыйны падыход.
Там дэмакратыя ўжо норма,
Там гаспадарыць увесь народ.
А разбіцьцё ў кожнай сфэры
Заўжды стабільнасьці залог.
Надзей аснова і даверу
Да выбраных шляхоў-дарог.
Курс Польшчы сёньня ў Эўропу,
У сяброўскі моцны цесны зьвяз.
Ніколі каб не быць халопам
І не марнець чарговы раз.
І млода-пекнаю паненкай
Краіна ў будучыню йдзе.
І беражэ як зрэнку вока
Свой імідж – зь ім не прападзе!
І не зрачэцца вольнай волі,
Бо мае ўласны запавет:
Здабудзь сабе шчасьце і долю!
Вярні сабе вызвольны сьвет!
Сьцяліся-ж бальшаком дарога,
Якою крочыць польскі люд.
За незалежнасьць, перамогу
Я Пана Езуса малю.

***Галіна СУТУЛА,***
***журналістка з Глыбокага***

# Пра Алімпійскія гульні

Ніякія іншыя спартовыя гульні не выклікаюць такога зацікаўленьня ў народзе як Алімпійскія. Сотні тысяч людзей едуць на Алімпіяды, каб палюбавацца спаборніцтвамі, а іншыя мільёны сядзяць за прэсаю і тэлевізарам.

Алімпійскія гульні зьявіліся тысячы гадоў таму ў Грэцыі. Старажытныя грэкі дапаўнялі свае рэлігійныя абрады спартыўнымі выступленьнямі – гульнямі, якія былі папулярнымі ў народзе. Былі гэта Істмінскія, Неменскія, Алімпійскія і Піфійскія. Але найбольш папулярнымі лічыліся гульні Алімпійскія. Усе яны адбываліся ў гонар бога Зеўса, якога грэкі ўважалі за бацьку ўсіх багоў. Сьвятасьць да гэтых гульняў і пашана да іх былі такімі, што ў гэты час спыняліся войны.

Першая Алімпійская гульня запісаная пад 776 годам да нашай эры, але яны бяруць свой пачатак з 14-га стагодзьдзя да нашай эры.

У вайне грэкаў з пэрсамі ў 490 годзе да нашай эры атэнскі камандзір Мільціядэс паслаў ганца Фідіппідэса з Маратону ў Атэны па дапамогу. Адлегласьць была 42 195 мэтраў, і жаўнер Фідіппідэс прабег гутую дыстанцыю. У міжчасьсе грэкі пабілі пэрсаў без дапамогі з Атэнаў. Арганізатары Алімпійскіх гульняў выбралі гэты гістарычны Маратонскі шлях, каб ушанаваць подзьвіг жаўнера Фідіппідэса.

Калі Грэцыя апынулася пад уладаю рымлянаў, Алімпійскія гульні пачалі адыходзіць у забыцьцё. Рымляне не надавалі вялікага значэньня спроту, і Феадосі Вялікі забараніў Алімпіяду ў 393 годзе нашай эры.

Аднак зацікаўленьне да старажытных грэцкіх Алімпійскіх гульняў жыло, і французкі барон П'ер дэ Кубэртэн (1863-1937) падаў прапанову адрадзіць Алімпійскія гульні, і яны праходзілі кожныя чатыры гады за рэдкімі выключэньнямі.

Барон Кубэртэн хацеў і верыў, што праз Алімпійскія гульні можна навучыць людзей розных нацыянальнасьцяў жыць у згодзе і братэрстве. Ён казаў: "Важнейшае ў Алімпійскіх гульнях – гэта ўдзел, а не перамога." Але гісторыя паказала, што алімпійскія ідэалы не спраўдзіліся. Яны засталіся сымбалічнымі, а гульні сталі арэнаю для палітыкі, нацыянальных перамогаў, што выяўляецца ў падняцьці нацыянальных сьцягоў і ігранні дзяржаўных гімнаў.

Нельга забыцца і на той сумны факт, што ў часе Алімпіяды ў Мюнхэне (Нямеччыны) у 1974 годзе тэрарысты забілі жыдоўскіх спартоўцаў.

Таксама спартоўцы, каб дасягнуць добрых вынікаў прымаюць забароненыя стэроіды, допінгі, стымулятары. Доктар Робэрт Вой, былы дырэктар дапінг-кантролю Алімпійскага камітэту ЗША, называе спартоўцаў "хадзячай лябараторыяй". Робяць гэта спартоўцы, каб задаволіць алімпійскі лёзунг "Хутчэй, вышэй, мацней".

Алімпійскія гульні прыносяць радасьць пераможцам, але і ня менш засмучэньня спартоўцам з тых краінаў, якія пакажуць сябе бедна на Алімпіядзе. Што да беларускіх спартоўцаў, у параўнаньні зь іншымі з большых і багацейшых краінаў, то яны паказвалі сябе на папярэдніх Алімпіядах добра.

Сёньняшні беларускі кіраўнік сказаў, што беларускія спартоўцы прывязуць з Алімпіяды 25 мэдалёў. Спадзявацца на гэта можна. Усе спартоўцы, якія ўдзельнічаюць у спаборніцтвах маюць надзею заваяваць мэдаль, але ня ўсім суджана. Аднак, што тут дзіўна, што ад беларускіх спартоўцаў улады дамагаюцца падпісаньня забавязаньня прывезьці мэдалі. Нічога падобнага нідзе не было, але ў сёньняшняй Беларусі ўсяго можна спадзявацца.

XXVIII Алімпіяда 2004 году праходзіць ў Атэнах ад 13 да 29 жніўня. У ёй бяруць ўзязь удзел каля 10 000 спартоўцаў з 201 краіны. Гэта найбольшая колькасьць краінаў-удзельніцаў Алімпіяды. Маюць адбыцца спаборніцтвы па 28 відах спорту.

***Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ***

# Нашая фанатэка

## Музычны ўспамін пра будучыню

***"Легенды Вялікага Княства II"*** – "Старажытная зямля", Мн., 2004, "БМАgroup".




Першы дыск гэтай сэрыі гістарычнай музыкі Беларусі з 2001 году пасьпеў вытрымаць некалькі выданьняў, адтыражаваных на высокатэхналягічных эўрапейскіх заводах фірмы "Sony". Зграбныя вокладкі digipak галяндзкай вытворчасьці сталі прывабным сувэнірам ня толькі для беларускіх мэляманаў, але й для гасьцей нашай краіны. І вось – вартасны працяг, які ў знаёмай колеравай гаме прадстаўляе выявы старажытных замкаў у Міры, Крэве, Нясьвіжы з дапамогаю геніяльных гравюраў Напалеона Орды.

Сярод выканаўцаў вы зноў сустрэнецеся з папулярнейшымі прадстаўнікамі айчыннай медыевальнай музыкі "Стары Ольса", "Lituus" (гэта новая рэінкарнацыя баранавіцкага "Контрданса"), але адкрыцьцяў навізны будзе ўсё-ж болей.

Зрэшты, калі капэлу А. Лася многія ведаюць паводле іхных альбомаў і шматлікіх самастойных канцэртаў, дык дудар Васіль Грынь з Заслаўя пасьпеў засьвяціцца толькі на ладжаных ім у родным горадзе дударскіх фэстах, і ягоны "Пастушок", найгрыш на парных дудках, – першы выхад у сьвет на сур'ёзнай фанаграфіі.

Бард клясычнай традыцыі Алесь Галіч запомніўся і на першым дыску, але тут ён выступае ў чароўным дуэце з Вольгаю Емяльянчык, прадстаўляючы выразна кантрастуючымі галасамі адзін з кантаў XVII стагодзьдзя славутага зборніка "Куранты".

Гістарычная спадчына ўнікальных зборнікаў сьвецкай музыкі сярэднявечча ("Полацкі сшытак", "Віленскі сшытак"), якія захавалі праявы – гэтак мовячы – айчыннай палацава-замкавай дыскатэкі мінулага веку (прычым вельмі даўно мінулага), прадстаўлена яшчэ больш шырока. Яна гучыць у выкананьні вядомага ўжо нам лютніста І. Кубліцкага ("Гальярда"), гуртоў "Lituus" ("Тарантэла"), "Стары Ольса" ("Прывітальны танец"), арганіста В. Кісьценя. І калі тут імёны сярэднявечных беларускіх кампазытараў, нажаль, не захаваліся, дык творы В. Бакфарка ў выкананьні лютністкі Ю. Дубнавіцкай, В. Длугарая ў выкананьні гурта "Brevis" красамоўна прэзэнтуюць аўтарскую традыцыю беларускай сьвецкай музыкі сярэднявечча.

Акрамя названых плыняў беларускай медыевальнай музыкі альбом прэзэнтуе і фальклёрныя баляды з глыбінь стагодзьдзяў ("Конь з арлом" гурта "Княжыч"), татэмічныя танцы ("Журавель" капэлі А. Laся, "Мядуніца" гурта "Guda") ды шмат іншых жанраў і назваў.

Праўда, не абыйшлося і без казусаў падобных першаму выпуску, калі журналіст радыё "Polonia" Алесь Навіцкі наконт трэку хора І. Мацюхова сказаў: "Наўрад ці моваю Вялікага Княства Літоўскага быў сучасны расейскі жаргон: "Напейтеся все пьяны – не будете упрямы"...".

Вось і тут падрыхтавана такая-ж лыжачка дзёгцю ад пінскага хору "Покліч", які вядомы беларускі кант XVII стагодзьдзя "Нова радасьць стала" выконвае у русыфікаваным выглядзе, хоць ён шмат разоў выдаваўся на дысках у першаснай вэрсіі, і нават у скарэктаванай новабеларускай (гл. CD "Сьвятая ноч" хору "Залатая горка", "Сьвяты вечар" супольнага рок-праекта, "Хтось крануўся крылаў" Вальжыны Цярэшчанкі ды іншых).

Самае вясёлае ў гэтым інцыдэнце, што пінчукі, русыфікуючы тэкст, так і не рызыкнулі "радасьць, яка не бывала" ператварыць у "небывалую каку". Так і сьпяваюць гэты фрагмэнт у першасным выглядзе, дэманструючы ўзор моўнай эклектыкі ці папросту трасянкі.

І ўсё-ж гэта не павінна дыскрэдытаваць агульнай задумы й шчырых намаганьняў прад'юсара Арыны Вячоркі. Тым больш, што і выканаўчы ўзровень хору "Покліч" дасягае саліднага эмацыйнага водгуку ў душах слухачоў. А ўвесь альбом выразна ствара малаўнічы музычны вобраз нашай старажытнай зямлі.

Асаблівая падзяка саўндпрад'юсару Уладзю Давыдоўскаму (экс-"Мроя"), які разбудаваў у гэтай кампіляцыі настраёва цэльны й стылістычна выверана альбом.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

**Каб замовіць гэты CD поштаю дашліце $12 на адрас рэдакцыі "Беларуса".**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



***Працяг з бачыны 5***

чай у Беларусі Масква лічыла ліквідацыю Беларускага Народнага Фронту – нацыянальна-дэмакратычнай сілы, якая магла рэальна пагражаць уладзе рэжыму. Сымптаматычна, што ў гэтай бруднай справе ўдзельнічаў Ганс-Георг Вік – нямецкі кіраўнік Місіі АБСЭ ў Менску, – а таксама іншыя лібэральныя функцыянеры з Эўропы, асабліва зь нямецкага боку.

У 1999 годзе, сумеснымі намаганьнямі расейскіх і нямецкіх спэцслужбаў, Беларускі Народны Фронт быў расколаты на дзьве арганізацыі. Адна частка засталася на пазыцыях нацыянальнай дэмакратыі й рэзка выступае супраць расейска-нямецкай палітыкі ў Беларусі. Другая – далучылася да намэнклятурна-дэмакратычнай псэўдаапазыцыі, кіруемай немцамі й Масквою і кантралюемай агентурай.

Кіруемая псэўдаапазыцыя была ўтвораная ў Беларусі стараньнямі Ганса-Георга Віка, які таемна супрацоўнічаў у гэтай справе (па яго ўласным прызнаньні) з КГБ. (Гл. "Белорусская газета", — 2004, 12 студзеня)

Стварэньне падстаўной апазыцыі ў Беларусі – гэта тыповая апэрацыя спэцслужбаў, якая вельмі нашкодзіла справе дэмакратыі ў Беларусі й заблытала сытуацыю. Падстаўная апазыцыя, у якую ўваходзіць шэраг партыяў (ад камуністаў да адколатай часткі БНФ), уяўляе сабою стракатае відовішча і не зьяўляецца самастойнай палітычнай сілай. Ніткі яе кіраваньня і фінансаваньня знаходзяцца ў Бэрліне і ў Маскве. Падстаўная апазыцыя выконвае праграмы і ўказаньні гэтых цэнтраў, пра што засьведчылі ўсе падзеі, у якіх удзельнічала гэтая "апазыцыя", і ўсе яе правалы. Ніякіх посьпехаў у палітыцы (нават мінімальных) у гэтага залежнага квазіапазыцыйнага ўтварэньня за пяць гадоў ніколі не было. Галоўным клопатам імітатарскай структуры ёсьць атрыманьне, прыўлашчваньне і выкарыстаньне грошай, якія даюць на псэўдадзейнасьць яе апекуны. У асяродзьдзі гэтай структуры зьявілася шмат людзей, далёкіх ад палітыкі, якія займаюцца ў гэтай сітуацыі, як яны кажуць, "палітычным бізнэсам".

Падстаўная апазыцыя перашкаджае нацыянальна-дэмакратычнаму руху ў рэальным змаганьні з рэжымам. Прыклад – цяперашнія падзеі ў Беларусі. На 17-га кастрычніка прызначаныя выбары ў "палату прадстаўнікоў". Рэжым стварыў шырокую сыстэму фальсіфікацыі галасаваньня. Галоўны клопат улады – прымусіць людзей пайсьці на выбары, бо вынікі галасаваньня прадвызначаныя. Яны залежаць выключна ад рэжыму. Машыну фальсіфікацыі галасаваньня, створаную рэжымам Лукашэнкі, нельга перамагчы ў лоб. Выбарчая машына дыктатуры непераможная – гэта правіла ўсіх дыктатураў. Сыстэму фальсіфікацыі можна толькі перакуліць байкотам. На галасаваньне ісьці нельга, бо такім чынам забясьпечваюцца выбары й фармальная легальнасьць для сфальшаваных выбараў. (Ніхто зь непатрэбных рэжыму кандыдатаў ня будзе прапушчаны ў "палату". Гэта бясспрэчны факт.) Тым больш, што "палата" ня мае ніякай самастойнасьці й ніякіх незалежных заканатворчых правоў.

Акрамя таго (і гэта галоўнае), разам з выбарамі 17-га кастрычніка ў Беларусі рэжым плянуе правесьці незаконны рэфэрэндум пра трэці тэрмін Лукашэнкі й зьмены ў канстытуцыі, выгадныя рэжыму. Масква і Бэрлін штурхаюць псэўдаапазыцыю на правальныя выбары, каб забясьпечыць свае інтарэсы. Выбары – гэта прынада для правядзеньня рэфэрэндуму аб захаваньні ўлады Лукашэнкі. І падстаўная апазыцыя ідзе на выбары. Гэтым робіцца вялікая шкода Беларусі, бо ўзаконьваецца і прадаўжаецца дыктатура. Хоць насельніцтва краіны настроенае ня йсьці на галасаваньне. Арганізацыі Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага руху рыхтуюць байкот.

### Гэбізм

У Беларусі й Расеі ўсталяваная новая тэхналёгія ўлады – "гэбізм" (ад назвы службы бясьпекі). Дзяржаўная ўлада знаходзіцца ў руках былога савецкага КГБ.

У слабакіруемай ельцынаўскай Расеі КГБ быў найбольш арганізаванай і структураванай сілай улады з добра падрыхтаванымі кадрамі, агентураю і дзяржаўным бюджэтам. Нібыта рэарганізацыі КГБ і скарачэньні, якія рабіў Ельцын і ягоныя стаўленьнікі, толькі дапамаглі спэцслужбам арганізавацца ў новых умовах. Праз некалькі гадоў прадуманай працы КГБ праз агентуру кантраляваў ахову і функцыянаваньне, практычна, усіх банкаў у Расеі, цалкам быў узяты пад кантроль КГБ увесь так званы "шэры" (крымінальны) бізнэс і, што істотна, – дзейнасьць міліцыі й крымінальны сьвет. За гады ўлады Ельцына адбылося глыбокае і татальнае пранікненьне КГБ у бізнэсовыя структуры Расеі. КГБ набыў магчымасьць кантраляваць грашовыя плыні і ўплываць на рух капіталу. Ён шырока пранік у сродкі масавай інфармацыі, стварыў і кантралюе мноства грамадзкіх і палітычных арганізацыяў.

У 1994 годзе, выкарыстаўшы палітычную і нацыянальную нясьпеласьць беларускага грамадзтва, Масква праз КГБ шляхам фармальна дэмакратычных выбараў праводзіць да ўлады ў Беларусі свайго стаўленьніка А. Лукашэнку. Два'аспэкты трэба адзначыць у гэтай падзеі. Першы: вяртаецца старая расейская палітыка вынішчэньня ўсяго беларускага. Другі: функцыянаваньне прамаскоўскай улады ў Беларусі ёсьць экспэрымэнтальным рэжымам для будучай сыстэмы ўлады КГБ у Расеі.

Зьяўленьне ў 1999 годзе ў вышэйшым дзяржаўным кіраўніцтве Расеі нікому раней не вядомага афіцэра КГБ У. Пуціна адкрыта, лапідарна і наўпрост сьведчыць, што гэта не самастойная фігура, а стаўленьнік пэўных сілаў і канкрэтных групаў.

Сілу і моц новай (калектыўна-ценевай) гэбоўскай улады засьведчылі найперш апошнія выбары ў расейскую Дзяржаўную Думу, калі КГБ ішоў на выбары амаль адкрыта, стварыўшы штучную прапуцінскую партыю, якая ня мела нават выбарчай партыйнай праграмы, і тым ня менш – поўнасьцю перамагла на выбарах, дзякуючы ўладзе, уладнаму рэсурсу, уладнай прапагандзе, агітацыі і ўладнай фальсіфікацыі.

Што-ж адбылося? Праз 14 гадоў пасьля ліквідацыі КПСС і распаду СССР поўная і абсалютная ўлада ў Расеі легальна, фармальна законна апынулася ў кулаку савецкай службы бясьпекі. (У Беларусі – на 8 гадоў раней, у 1996 годзе і незаконна.) Абсалютная ўлада ў імпэрскай краіне з імпэрскай мэнтальнасьцю і ідэалёгіяй сканцэнтравалася ў руках супэрпартыі, назва якой – КГБ. Аналягаў такой партыі й такой сытуацыі цяжка адшукаць у гісторыі. Гэтая партыя, якая зьяўляецца дзяржаўнай цэнтралізаванай структурай улады, яе сябры строга структураваныя і субардынаваныя. Супэрпартыя існуе на дзяржаўным бюджэце, прысутнічае ва ўсіх адміністрацыйных цэнтрах краіны. Яе дзейнасьць у значнай ступені засакрэчаная згодна з законам. Супэрпартыя валодае велізарным штатам схаванай ад грамадзтва (і таксама згодна закону) унутранай і зьнешняй агентуры, здольнай пранікаць і кантраляваць усе ўстановы, усе групы грамадзтва. Пераход вярхоўнай улады ў рукі гэтай партыі абазначае неабмежаваную магчымасьць кантролю над усімі сфэрамі дзяржаўнай, грамадзкай і палітычнай дзейнасьці.

У сваёй аснове, такім чынам, супэрпартыя ёсьць легальна і законна арганізаваная дзяржаўная мафія пад аховаю сваёй улады і сваіх законаў.

Галоўная іхняя "ідэалёгія" – грошы. Але валоданьне дзяржаўнай уладай канцэптуальна абумоўлена імпэрскай мэнтальнасьцю расейскага грамадзтва. Гэты *аспэкт прынцыпова ўлічаны*. Таму афіцыйнай палітычнай ідэалёгіяй супэрпартыі дэкляруецца дзяржаўны патрыятызм, аддаласьць інтарэсам Расеі (якія супадаюць з асабістымі і партыйнымі інтарэсамі Гэбэ).

Эканамічнае існаваньне такой мафійнай сыстэмы па сутнасьці тупіковае, бесьпэрспэктыўнае. Але ў Расеі яна можа трываць доўга.

Відавочна, што гэтакая гэбоўская сыстэма ўлады ніколі ня будзе дэмакратычнай. Па сваёй прыродзе яна ўвесь час імкнецца да кантролю над грамадзтвам, над друкам і грамадзкаю думкаю, над камэрцыйнай і прадпрымальніцкай дзейнасьцю.

Супэрпартыя Гэбэ, не дэкляруючы, прапануе, фактычна, сваю вэрсію глябалізацыі шляхам пранікненьня спэцслужбаў у капітал. Гаворачы спрошчана, прапануецца кантроль спэцслужбаў над сусьветнымі грашовымі плынямі, таварамі й рэсурсамі. Трэба ўлічыць, што ўсе спэцслужбы выконваюць палітычныя задачы сваіх нацыянальных урадаў. Тым часам расейская спэцслужба КГБ ёсьць цяперака сама сабе і ўрад, і партыя, і дзяржава.

Канцэнтрацыя рускага шэрага капіталу на Захадзе (мяркуюць, што ў Эўропе знаходзіцца ад 300 да 500 мільярдаў даляраў расейскіх грошай) зьвязаная ня толькі з крымінальным вывазам. Вывезеныя грошы ўжо працуюць на інтарэсы супэрпартыі КГБ і ў будучыні яшчэ могуць сыграць сваю злавесную палітычную ролю. Захад, напалоханы расейскім крыміналам, ня ў стане зразумець, у чыіх руках рычагі й кантроль над яго прасоўваньнем у Эўропу. Тым часам заключаючы здзелкі аб сумеснай дзейнасьці з расейскай бізнэсовай фірмай, заходнія людзі думаюць па сваіх стэрыятыпах і ня здольныя ўцяміць, што маюць справу з дзяржаўным гэбізмам, і ўпускаюць расейскую разьведку ў свае інтарэсы.

Расейскі КГБ – арганізацыя з жахлівым злачынным мінулым, з крымінальнымі тэрарыстычнымі традыцыямі, ад якіх ніхто ва ўладзе Расеі не адмовіўся, наадварот, глядзяць на іх, як на "героические традиции прошлого".

Тэрарызм заўсёды быў галоўнаю сфэраю дзейнасьці КГБ. За часы халоднай вайны тэрарыстычная актыўнасьць чэкістаў была пашыраная, структураваная і сыстэматызаваная, набыла рысы міжнароднай палітыкі з пляцоўкамі на ўсіх кантынэнтах. У Савецкім Саюзе пры ваенных частках і навучальных установах узьнікла шмат цэнтраў па падрыхтоўцы міжнародных тэрарыстаў з усяго сьвету (з Кубы, Афрыкі, Лацінскай Амэрыкі, з арабскіх краінаў і г. д.). У 1960-х гадох былі нават створаны спэцыяльны "Унівэрсытэт Дружбы Народаў імя Патрыса Лумумбы" ў Маскве, дзе рыхтавалі тэрарыстаў (там прайшоў падрыхтоўку, напрыклад, вядомы міжнародны сэрыйны тэрарыст-забойца і марксіст Санчэс Ільіч Рамірэс (Шакал), якога ў 1990-х гг. схапілі й судзілі ў Францыі). Атрымаўшы вывучку ў СССР, тэрарысты пад кантролем КГБ актыўна дзейнічалі ў Афрыцы й Лацінскай Амэрыцы, дзе экспартавалі "рэвалюцыю" ды "змагаліся" ў такіх краінах, як Егіпет, Іарданія, Ліван, Сірыя, Аўганістан, і ўвогуле – на Блізкім Усходзе, *ня кажучы ўжо пра В'етнам*. Гэты "вопыт" і міжнародная сетка тэрарызму, створаная КГБ, ня згінула з распадам СССР, ня зьнікла канчаткова, засталіся кадры, навыкі, сувязі, і нарэшце – застаўся прыклад, прэцэдэнт тэрарыстычнай дзейнасьці, якая аднавілася цяпер на новым этапе, як вайна з Амэрыкай.

Ёсьць пытаньні, якія ляжаць на паверхні, і выклікае вялікае зьдзіўленьне, што ніхто іх не задае цяпер, калі тэма тэрарызму стала галоўнай у Заходнім сьвеце.

Першае: дзе ёсьць цэнтар тэрарызму? Хто ім кіруе? Хто падрыхтаваў і давёў да выкананьня такую складаную дыверсію, як зьнішчэньне вежаў Гандлёвага Цэнтру ў Нью-Ёрку і разбурэньне будынку Пентагона ў Вашынгтоне? Хто? Бін Ладэн? Гэта выглядае несур'ёзна. Кожны, хто здольны аналізаваць, зразумее, што такая апэрацыя была не пад сілу толькі тэрарэстычнай арганізацыі.

Камісія Кангрэсу ЗША прышла да высновы аб няўзгодненых дзеяньнях і памылках спэцслужбаў Амэрыкі, якія не прадухілілі дыверсію 11 верасьня. Але вядома (нават зь літаратуры і кіно), што прафэсіяналы спэцслужбаў пачынаюць раптам усе памыляцца перад нейкай падзеяй тады, калі на іх (ці ўнутры іх) дзейнічае і ўплывае іншая спэцслужба.

Пасьля дыверсіі 11 верасьня Амэрыка была лёгка ўцягнутая ў дзьве вайны на Блізкім Усходзе. Так, вайна адпавядала інтарэсам бясьпекі Амэрыкі і крок быў неабходны (і з пункту гледжаньня лёгікі барацьбы – правільны). Але задамо пытаньне, чым яшчэ інтарэсам адпавядала гэтая вайна? І чаму, калі ў Іраку не знайшлі зброі масавага зьнішчэньня, раптам зноў выявілася, што прымітыўна і бяздарна памыліліся ў гэтым ужо адразу дзьве нацыянальныя разьведкі – амэрыканская і ангельская. А "памылка" такая: разьведкі сцьвярджалі, што зброя ёсьць. Але калі-б было вядома, што зброі масавага зьнішчэньня ў Іраку няма, то вайна магла-б не пачацца.

Часам карысна лапідарна паразважаць на тэму выгады. Дыверсія 11 верасьня ўдарыла па ўсім Заходнім сьвеце. Ні адна краіна не атрымала пасьля гэтай падзеі ніякага палітычнага прыбытку. Але Расея адразу скарыстала сітуацыю, каб схаваць свой дзяржаўны тэрарызм і злачынную вайну ў Чачэніі, паказваючы на ісламскую рэлігійнасьць чачэнцаў, якія абараняюць бацькаўшчыну. І гэтае права на абарону выстаўляецца расейцамі як ісламскі тэрарызм. Маніпуляцыя ўдалася. Захад па-здрадніцку здаў чачэнскі народ на зьнішчэньне.

Ад вайны ў Іраку на сёньняшні дзень ніхто не атрымаў эканамічнай выгады, акрамя Расеі. Добра вядома, што эканоміка, і нават існаваньне палітычных рэжымаў у гэтай краіне, залежыць ад кошту на наф-

***Працяг на бачыне 8***

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



*Заканчэньне з бачыны 7*

ту. У выніку вайны ў Іраку цэны на нафту высока падскочылі ўверх. У Расею паціклі незапланаваныя нафтадаляры. Даляраў цяпер поўна, ня ведаюць, куды прыткнуць. Далі вось 175 мільёнаў на незаконны рэфэрэндум Лукашэнку (пад выглядам крэдыту). Нафтадаляры даюць рух бізнэсу, новым ініцыятывам. Выгада, якую за кароткі час атрымала Расея і супэрпартыя КГБ ад прытоку нафтадаляраў, эквівалентная вялікім дзяржаўным высілкам па эканамічных рэформах, інвэстыцыях ды крэдытах, ды на доўгія гады. Але ўсё гэта можна было дасягнуць хутка. Дастаткова толькі, каб Амэрыка пачала вайну ў Іраку.

Гэбізм, як-бы я яго ацаніў, — гэта, вобразна кажучы, прыватызацыя дзяржавы спэцслужбамі (у дадзеным выпадку КГБ).

Спэцыфіка гэтай улады ў тым, што супэрпартыя КГБ фармальна як бы нябачная. На паверхні плаваюць розныя палітычныя ўтварэньні й асобы, бізнэсовыя фірмы, банкі, але няма відавочнай дэкларацыі прыналежнасьці да КГБ. Такая сыстэма нагадвае крыху структуру масонскай ложы. Яе няпроста палітычна разбурыць. Тым больш, што Гэбэ скарыстоўвае фармальна дэмакратычныя мэханізмы абстаноўкі ўлады (выбары, парлямант і г. д.) і кантралюе рэжым іхняга функцыянаваньня.

Найбольшая небясьпека хаваецца ў тым, што рускі гэбізм скрыта агрэсіўны, а акаляючы сьвет яшчэ ня можа разабрацца, што за тып улады ўтварыўся ў Расеі, і гатовы называць яго нават "дэмакратыяй", што выглядае насьмешкай над здаровым сэнсам.

### Садружнасьць айчынаў

Нам недаспадобы плян Нямеччыны-Францыі аб фэдэратыўнай Эўропе. Крызіс такога Эўразьвязу, які фармуецца без апоры на якую-небудзь агульную духоўную ідэю, адмаўляецца ад духоўных традыцыяў хрысьціянскай Эўропы, — непазьбежны.

Для беларусаў непрыймальная ідэя стварэньня лібэральнай супэрдзяржавы на Захадзе, замест вольнай Эўропы вольных народаў. Нам няма чаго ў такой дзяржаве рабіць. Беларусам бліжэй Эўропа айчынаў і ідэалёгія айчынаў, якая ёсьць асновай свабоды. Будучая вольная Беларусь аб'ектыўна будзе збліжацца найперш з паўночна-заходняй (скандынаўскай і балтыйскай) групай краінаў Эўропы, якія прыхільныя да каштоўнасьцяў айчыны, свабоды й незалежнасьці. Тым самым стане вяртацца ідэя Ўсходняй Эўропы — стварэньне Балта-Чарнаморскай Садружнасьці.

### Лёс рэжыму і будучыня Беларусі

Лёс аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі й будучыня Беларусі павінны вырашыцца 17-га кастрычніка гэтага году на выбарах у "палату прадстаўнікоў" і на рэфэрэндуме пра трэці тэрмін Лукашэнкі, які плянуюць прызначыць разам з выбарамі. (Чакаецца, што пра рэфэрэндум могуць аб'явіць у сярэдзіне верасьня.)

Масква зацікаўленая, каб выбары ў "палату" прайшлі па сцэнары Лукашэнкі (выбіраюча толькі крэатуры рэжыму) і каб яны былі прызнаныя міжнароднай супольнасьцю. Наяўнасьць у Беларусі легітымнага парляманту дало-б фармальную магчымасьць Маскве зацьвердзіць шэраг незаконных дамоваў з Лукашэнкам, прынятых раней (напрыклад, так званы "саюз" Расеі й Беларусі 1999 года і інш.), а таксама прывесьці ў дзеяньне іншыя свае інкарпарацыйныя пляны.

Крэмль, не афішуючы, падтрымлівае трэці тэрмін Лукашэнкі, бо хоча мець у Менску свайго чалавека, празь якога ён праводзіць сваю палітыку.

Бэрлін паспрабаваў асобна дамовіцца з Лукашэнкам (дзейнасьць Ганса Віка), а таксама правесьці ў кіраўніцтва Беларусі праз выбары сваіх людзей з намэнклятурнай апазыцыі. Абедзьве спробы пацярпелі фіяска.

Пэўныя нямецкія палітычныя колы пагаджаюцца на здачу Беларусі пад Маскву. Гэтым яны думаюць забясьпечыць сабе больш танны й выгадны транзіт тавараў і рэсурсаў (асабліва газу), выгаднае выкарыстаньне беларускай інтэлектуальнай і рабочай сілы. Пра гэта цынічна выказаўся У. Пуцін, які сказаў: "У былых савецкіх тэрыторыях на захадзе мы бачым крыніцу інтэлекту і працоўнай сілы". Думаньне — нібы ўзятае з плянаў Бормана.

Крэмлёўскі гэбізм плянуе сагнаць беларусаў з сваёй зямлі й выкарыстаць беларускія рабочыя рукі на газава-нафтавых радовішчах у Сібіры. Немцы ў сваю чаргу ўжо сьцягваюць здольны й танны беларускі інтэлект.

Нямецка-расейская пазыцыя па Беларусі абумоўленая яшчэ прэвентыўным жаданьнем стварыць выгадную пэрспэктыву пры вырашэньні ў будучыні пытаньня аб Усходняй Прусіі (Калінінградзкая вобласьць і прыбалтыйскія землі ў Польшчы), а таксама — у палітыцы Нямеччыны адносна Польшчы. Немцы зацікаўленыя трымаць Польшчу ў Эўразьвязе. Наяўнасьць за Бугам Расеі (а не дэмакратычнай Беларусі) стала-б дадатковым чыньнікам, які штурхаў-бы Польшчу да немцаў (у Эўразьвяз), дзе немцы маюць рычагі ўплыву на Польшчу і могуць плянаваць свае інтарэсы, а ў выпадку агульнаэўрапейскага крызісу і развалу (які надыходзіць) — маніпуляваць польскім пытаньнем з Расеяй. (Не забывайма, што сярод усіх эўрапейскіх нацыяў немцы, як ніхто, здольныя палітычна глядзець на дзясяткі гадоў наперад і працаваць на сваю будучыню.)

Ёсьць тры варыянты зыходу выбараў і рэфэрэндуму 17-га кастрычнака. **Першы варыянт.** Байкот адбыўся. Гэта перамога грамадзтва над рэжымам. Афёра з трэцім тэрмінам і легітымізацыяй крэатурнага парляманту праваліваецца. Прэзыдэнцкія выбары 2006 года павінны адбыцца па Канстытуцыі (без Лукашэнкі). Можа быць пастаўленае пытаньне аб тэрміновых новых выбарах прэзыдэнта.

**Другі варыянт.** Рэальна адбываецца байкот выбараў і рэфэрэндуму, але рэжым груба фальсіфікуе вынікі ўдзелу выбаршчыкаў у галасаваньні, ігнаруе відавочнае, усе факты і аргументы і, насуперак усяму, заяўляе пра "падтрымку народу" і "перамогу" ў галасаваньні.

Тады беларускае грамадзтва і міжнародная супольнасьць не прызнаюць вынікаў такіх выбараў і рэфэрэндуму. Рэжым застаецца ў падвешаным стане, палітычныя і маральныя пазыцыі яго пагоршацца і аслабнуць. Тым часам грамадзтва атрымлівае штуршок да большай кансалідацыі супраць рэжыму. Байкот кансалідуе людзей. У выніку прэзыдэнцкія выбары 2006 года могуць набыць вострканфліктны характар, дзе пазыцыі Лукашэнкі стануць хісткімі, а лёс рэжыму — няпэўным.

**Трэці варыянт.** Параза Беларусі. Супольнымі высілкамі ўлады і яе падстаўной "апазыцыі" (розных "пяцёрак плюс") і пры ляманце немцаў у Эўразьвязе аб патрэбе дэмакратычных выбараў у Беларусі беларускіх выбаршчыкаў загоняць на галасаваньне. Рэжым бесперашкодна фальсіфікуе вынікі й заяўляе пра сваю чарговую "элегантную перамогу"(выраз Лукашэнкі).

Першаю прызнае "вынікі" Масква. Потым у дыпляматычнай форме — Эўразьвяз (адзначыўшы "контрпрадуктыўныя моманты", недатрыманьне "фармату выбараў", "адсутнасьць адчувальнага прагрэсу" выбарчай сыстэмы й таму падобны пустапарожні эўрабюракратычны жаргон).

Рэжым узмацняецца і застаецца. Лукашэнка — застаецца. Прэзыдэнцкія выбары 2006 года — прадвызначаныя. Антыбеларуская палітыка працягваецца з новаю сілаю. Нішто ўжо не перашкаджае плянам Масквы і Бэрліну рабіць свой парадак ва Ўсходняй Эўропе. Перад Беларусяй рэальна паўстае катастрофа страты нацыянальнай маёмасьці, нацыянальнай культуры, насельніцтва і дзяржаўнай незалежнасьці.

У трэцім варыянце ёсьць, аднак, яшчэ адна верагоднасьць. Парушэньні заканадаўства будуць такія грубыя, масавыя і відавочныя, што Захад пад націскам грамадзкасьці будзе змушаны не прызнаць выбары. І гэта зьмякчыла-б удар.

* * *

Пытаньні, адлюстраваныя ў гэтым мэмарандуме, пастаянна абмяркоўваюцца ў беларускіх народна-дэмакратычных арганізацыях вызвольнага кшталту (найперш — у Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ і ў Беларускім Народным Фронце "Адраджэньне") і даведзеныя да ведама беларускай грамадзкасьці (у залежнасьці ад інфармацыйных магчымасьцяў, якія існуюць цяпер у краіне).

Мы спадзяемся і верым у Беларускі Народ. Мы спадзяемся таксама на разуменьне і падтрымку дзеячоў міжнароднай супольнасьці, на людзей з дзяржаўным думаньнем і адказнасьцю за будучыню Эўропы. Мы ведаем таксама, што найвялікшая вольная краіна сьвету Злучаныя Штаты Амэрыкі і наймацнейшая краіна Эўропы — Вялікабрытанія зьяўляюцца (паводле Будапэштскага Мэмарандуму 1994 года) гарантамі сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь. Гэта дае нам упэўненасьць, што Беларусь, абараняючы сваю незалежнасьць, змагаючыся за волю і дэмакратыю, заўсёды будзе мець падтрымку і салідарнасьць вольных краінаў, тых людзей, якім дарагія ідэалы свабоды, гуманізму і справядлівасьці ў нашым агульным сьвеце.

***Д-р Зянон ПАЗЬНЯК***

***Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"***

***і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ***

НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| **А. і Н. Вакуліч** | .50 |
| **У. Ракуць** | .50 |
| **У. Сітнік** | .50 |
| **В. Міцкевіч** | .30 |
| **К. Муха** | .30 |
| **В. Яскевіч** | .30 |
| **С. Будкевіч** | .20 |
| **А. Міцкевіч** | .10 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**Віншую супрацоўнікаў з выхадам пяцісотнага нумару нашай цэннай газэты, што доўгімі гадамі зьяўляецца важнай крыніцай інфармацыі, лучнікам на некалькіх кантынэнтах сьвету.**

***К. АКУЛА***

Сьвятар і парафіяльная рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Брукліне на: 401 Atlantic Ave запрашаюць вас на Божыя службы кожную нядзелю а 10-й гадзіне раніцы.

**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва віншуе Лявона ЮРЭВІЧА з заканчэньнем навукі на бібліятэказнаўчым факультэце Пратаўскага унівэрсытэту (Нью-Ёрк) і атрыманьнем ступені магістра бібліятэказнаўства й інфармацыйных навук.**

***Управа БІНіМ***

**Газэта "БЕЛАРУС" бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш.**

**Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.**

**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

Выдае штомесячна:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***
Сусьветнае сеціва: ***baza-belarus.org***
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

Published monthly by
***Belsrusan American Ass'n, Inc.***
Subscription $30 yearly
Make checks payable to ***BIELARUS***

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.

© BIELARUS, 2004

Адрас для допісаў і кантактаў:
***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
E-mail:
***hazetabielarus@att.net***
Сусьветнае сеціва:
***www.bielarus.org***

ISSN 1054-9455

Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018